№ 17 (226) 25 красавіка 2001 г.

# НАША НІВА

Заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991. Выходзіць у панядзелкі

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

## ПЕРАБОЛЬШАНЫ ЧАРНОБЫЛЬ

Маштабы бяды меншыя, чым мы баяліся, — сьведчаць навукоўцы з камітэту ААН у справах наступстваў атамнага апраменьваньня

Старонка 6.

## Апэрэткавая дыктатура

*Курс Пуціна на цэнтралізацыю Расеі аднолькава небясьпечны і для Лукашэнкі, і для беларускіх дэмакратаў*

Эпатажныя заявы Лукашэнкі падчас візыту ў Екацерынбург (“расейская сыстэма ўлады неэфэктыўная, бо ўсіх абіраюць”) выклікалі зьедлівыя камэнтары расейскіх мэдыяў. На тэлеканале ОРТ Лукашэнку нават назвалі “*обнаглевшим парнем*”. Цяжка ўявіць, каб такое на дзяржаўным тэлебачаньні магло прагучаць на адрас кіраўніка любой іншай дзяржавы, нават самай варожай Расеі. А з Лукашэнкам гавораць ягонай жа мовай.

Расейскія СМІ даўно прычапілі Лукашэнку ролю “блазна №3”. №1 і 2 па праве належаць кіраўнікам маргінальных расейскіх рухаў Жырыноўскаму (лібэрал-дэмакрат) і Харытонаву (аграрнік). Аналягічны вобраз пераносіцца з кіраўніка на народ краіны.

Рэакцыяй незалежных беларускіх СМІ была сумесь злое радасьці і пякучае корці. З найбольшым смакам цытавалі камэнтатара афіцыёзных “*Известий*” і ОРТ М.Сакалова якраз тыя выданьні, якія на сваіх старонках называюць Лукашэнку “прэзыдэнтам” і “кіраўніком дзяржавы”, г.зн. не зважаюць на пытаньне фармальнай канстытуцыйнай легітымнасьці.

Працяг на старонцы 4.



УЛАДЗІМЕР ШЛАПАК



УЛАДЗІМЕР ШЛАПАК

## Хадыку лепшае

**Менскія лекары змагаюцца за жыцьцё лідэра БНФ Юр’я Хадыкі.** Як распавёў Лявон Баршчэўскі, здароўе спадара Хадыкі пагоршылася пасьля няўдалай апэрацыі. Колькі дзён Хадыка знаходзіўся ў крытычным стане ў рэанімацыі – адказалі ныркі... Напярэдадні Радуніцы яму палепшала, але сытуацыя яшчэ няпэўная.

Трымайцеся, спадару Юр’ю, не паддавайцеся нягодзе!

**Тацяна Сьнітко**

## Кааліцыя моладзі

**18 юнацкіх суполак злучыліся ў перадвыбарную кааліцыю, каб агітаваць за ўдзел у выбарах.** Адпаведны мэмарандум яны падпісалі на сустрэчы ў Вільні ўчора. Сярод іх як вядомыя — Малады Фронт, Задзіночаньне Беларускіх Студэнтаў, так і невялікія культурніцкія й спартовыя зьвязы.

**Б.Т.**

## Мірон у Радашкавічах

**Пазаўчора ў віленскую рэдакцыю “НН” затэлефанаваў чалавек з Радашкавічаў і расказаў, што на высачэзным коміне больніцы павесілі бел-чырвона-белы сьцяг.** Каля яго — цыдулка з эмблемай Маладога Фронту і подпісам: “Хто здыме гэты сьцяг Хрыста, перад ім і адкажа. Мірон”. Відаць, сам Мірон і званіў.

**А.К.**

**Старшыня гомельскага аблвыканкаму Мікалай Вайцянкоў з уласнага жаданьня пакідае сваю пасаду. Афіцыйная прычына — стан здароўя (у 80-х Вайцянкоў перанёс нэўрахірургічную апэрацыю).**



**Чым патлумачыць незвычайны для Беларусі крок Вайцянкова? Па камэнтар мы зьвярнуліся да аднаго зь лідэраў беларускае апазыцыі, былога палітвязьня, а яшчэ раней — міністра сельскай гаспадаркі Васіля Лявонава, які знаёмы з былым кіраўніком Гомельшчыны больш за 20 год. Чаму сыходзіць Вайцянкоў?**

*«Гэта лягічны крок прыстойнага, далікатнага, выхаванага чалавека, які сваімі маральнымі якасьцямі ня ўпісваецца ў амаральную сыстэму існуючай улады. Ён ня здолеў далей працаваць у гэтай сыстэме. Паглядзіце, як ён сябе паводзіў, знаходзячыся там. Ён ніколі не імкнуўся атрымаць нейкія прывілеі для сябе, дасягнуць прызавых месцаў у гэтай іерархіі. Уладзе ён пярэчыў увесь час. Рабіў ён гэта ціха, без скандалаў. Прычым праяўляў гэта ня толькі ў працы і паводзінах, але і ў выказваньнях для прэсы, у прыватных размовах. Што да хваробаў, гэта другасная прычына. Замяніць такога чалавека, як Вайцянкоў, цяжка».*

## Вайцянкоў пайшоў

53-гадовы кіраўнік вобласьці не хаваў сваёй прыхільнасьці да эканамічных рэформаў і чэскай мадэлі разьвіцьця, якую ён засвоіў, пакуль быў, воляй Лукашэнкі, паслом у Чэхіі. (Падчас выбараў 1994 г. Вайцянкоў нават не пагадзіўся сустрэцца з кандыдатам у прэзыдэнты А.Лукашэнкам, які якраз на Гомельшчыне сабраў пасьля максымум галасоў). Але рэфарматар Вайцянкоў кіраваў Ніжнім Падняпроўем — рэгіёнам з найкансэрватыўнай сьвядомасьцю насельніцтва. Няшмат ён здолеў зьмяніць... Дый не настойваў надта, уважаючы, што “вэртыкальшчык” мусіць найперш выконваць загады зьверху, сабатуючы хіба непрыхавана шкодныя для грамадзтва ўказаньні.

Поўнай улады над сілавымі структурамі вобласьці ён ня меў, таму на Гомельшчыне адкрываліся палітычна матываваныя крымінальныя справы (супраць Яўгена Мурашкі), ладзіліся правакацыі (справа з чамаданам Домаша).

Вайцянкоў — кіраўнік вобласьці, які ведаў Домаша як калегу (зрэшты, і Якабсон, які мае замяніць Вайцянкова, працаваў разам з Домашам у Вярхоўным Савеце). Гэта не магло не накладаць адбітку на іхныя стасункі.

Гамельчукі згадваюць Вайцянкова добрым словам. Лідэр маладзевага цэнтру «Яравіт» Аўген Касьцюшка лічыць, што адстаўка была сапраўды добраахвотнай. «Вайцянкоў стаміўся і выраашыў ад магчымага перадвыбарнага бруду адысьці ўбок. Якабсон амбітны і энэргічны. З адмоўнага боку ён сябе ня выявіў». Выкладчыца ўнівэрсытэту Юлія Сальнікава называе Вайцянкова «прыстойным чалавекам». «Грамадзтву было ня толькі прыемна, але й дзіўна мець такога кіраўніка. Пры Вайцянкову наш горад стаў набываць прыстойны выгляд».

Сытуацыя нагадвае берасьцейскую, дзе надзвычай папулярнага Ў.Заламая Лукашэнка замяніў на надзвычай непапулярнага В.Даўгалёва, адправіўшы Заламая на ключавую, але непублічную пасаду пасланца ў Караляўцы.

Месца Вайцянкова мае заняць 50-гадовы мэр Гомеля Аляксандар Якабсон, які перад тым доўгі час кіраваў Сьветлагорскам, чыгуначнік з адукацыі.

Вадзім Болбас, лідэр сьветлагорскіх ТБМ і БНФ, кажа, што «Якабсон быў ці ня першым у Вярхоўным Савеце, хто выказаў ідэю стварэньня канфэдэрацыі з Расеяй. Таму на выбарах мэра я б галасаваў за Якабсона як за добрага гаспадарніка, але на выбарах у парлямэнт я галасаваў бы супраць яго як кепскага дзяржаўніка».

Час пакажа, чаму Вайцянкоў пайшоў. Ці каб падтрымаць шырокую апазыцыйную кааліцыю, што можа ўтварыцца напярэдадні выбараў, ці каб саступіць сваё месца чалавек, які не збаіцца на высокай пасадзе пайсьці на рызыку такое падтрымкі, ці проста — каб ня ўпэцкацца ў выбарчыя фальсыфікацыі. У любым разе, добраму чалавеку і хвароба ідзе на карысьць.

**Вадзім Доўнар**

## Падпішы сябра

**Дзякуй Антонію Запалоту з Кембрыджу за грошы, пераказаныя на падпіску незаможных чытачоў «НН» і бібліятэк.**

**НАША НІВА** *Газэта тваёй душы*

«Наша Ніва» — гэта 12 старонак інфармацыі і камэнтароў пра падзеі ў Беларусі і сьвеце штотыдня, гэта паўнакроўная беларуская культура, гэта жывы голас незалежнага беларускага грамадзтва. Аўтары і чытачы «Нашай Нівы» разам твораць краіну.

Падпісны індэкс 63125. Падпіска на 1 месяц каштуе 929 рублёў. Для менчукоў на шапік «Белсаюздруку» — 760 рублёў. Падпіску на «НН» прымаюць на любой пошце, у многіх шапіках «Белсаюздруку». Менчукам вельмі зручна падпісвацца «на шапікі» — таньней, і газэту можна забіраць у панядзелак.

**ПАДПІШЫСЯ САМ, ПАДПІШЫ СУСЕДА ДЫ СУСЕДНЮЮ ШКОЛУ!**

## З усёй краіны



### Тапелец

**Дзьве гадзіны мясцовыя рыбары вудзілі рыбу на Вяльлі.** Сядзелі на дрэве, нахіленым над вадой, і ня ведалі, што пад імі мярцьвяк. Пакуль чыясьці вуда за яго не зачапілася. Сьледчая група амаль гадзіну даставала нябожчыка. У кішэнях, акрамя грабянца і 6 рублёў, не было нічога. І вопраткі не было, і чаравіка на правай назе.

Зь месяцы два таму прапаў бязь вестак чалавек. Выпісаўся з псыхіятрычнай лякарні, а дадому не вярнуўся. Экспэрт вызначыў дату сьмерці — 5 лютага. Увесь час гаротнік праляжаў у вадзе.

### Камунізм па-ашмянску

**У Смургонскі суд накіраваная справа 45-гадовага грамадзяніна з Ашмянаў. Ён абрабаваў дзьве крамы:** у сваім родным горадзе і ў вёсцы Чухны Смургонскага раёну. Зь вясковай зьнёс усё. Склаў багацьце ля хаты ў лесе. Міліцыянты дапільнавалі злодзея, калі той ішоў да свайго “складу” па чарговую бутэльку і бляшанку шпротаў. За пару дзён камунізму ў асобнай хаце злачынца зьеў і выпіў амаль усё, што пакраў. Ненаедная такая вантроба.

**Тацяна Скарынкіна, Смургоні**

### Беспранцыпны доктар

**Кіраўніка аднаго з аддзяленьняў Магілёўскага скурвэндыспансэру затрымалі пры атрыманьні ад пацыента хабару 108 000 беларускіх рублёў.** Гэтулькі ён браў за тое, што ня ставіў на афіцыйны ўлік як вэнэралягічнага хворага. Лекаваньне ж пры гэтым гарантаваў.

### П’яны Вялікдзень

**Гарэлка нарабіла на Вялікдзень шмат бяды на Берасьцейшчыне.** 15 красавіка ў баранавіцкі шпіталь зь сечанымі ранамі прывезьлі 41-гадовую касірку крамы Н. Яе скалечыў былы муж, 47-гадовы таксіст, які, учыніўшы гэткае, сам засіліўся. У Пінску зламысьнікі зьбілі мясцовага жыхара, адабраўшы 91 даляр, 5 тыс. рублёў і дакумэнты. У вёсцы Какорыца Драгічынскага раёну ў Вялікую ноч загарэлася хата фэльчара Бязьдзежскай больніцы З. У агні загінула гаспадыня і яе беспрацоўны палюбоўнік. А ўсё таму, што палілі ў ложку.

### Інфляцыя

**Паводле зьвестак Мінстату, за першы тыдзень красавіка цэны вырасьлі на 2%.** Гэта нямала — самы высокі паказьнік росту з пачатку году. Усяго з пачатку году яны ў Беларусі вырасьлі нібы на 15,4% (у 2000 г. за гэты ж час — на 34,5%).

**Паводле БелаПАН**

# Дзе Глыбоўскі?

13–15 красавіка ў гатэльным комплексе МАЗу (Герасіменкі, 8) праходзіла міжнародная канфэрэнцыя, прысьвечаная праблемам студэнцкага самакіраваньня. 14 красавіка каля 8-й вечара ў гатэль завіталі людзі ў цывільным, якія шукалі «чалавека ў панамцы» — ганаровага сябра Задзіночаньня Беларускіх Студэнтаў Ільлю Глыбоўскага. Агенты 007 запатрабавалі ў адміністрацыі сьпісы ўдзельнікаў і ключы ад іхных пакояў. Адміністрацыя згадзілася адчыніць толькі пакой Глыбоўскага. Там нікога не было. Раптам кадэбісты ўбачылі, як «чалавек у панамцы» сядае ў таксоўку. Уздагон выправіліся дзьве машыны спэцслужбаў. Людзі ў цывільным выцягнулі бедака з машыны, паклалі тварам на капот, але, разгледзеўшыся, зразумелі, што гэта не Ільля, адпусьцілі (гэта быў Алесь Міхалевіч, былы кіраўнік ЗБС).

Супрацоўнікі спэцслужбаў перасьледавалі большасьць таксовак, якія ў той вечар развозілі ўдзельнікаў канфэрэнцыі.Назіраньне за гатэлем трывала цэлую ноч. Усё ж Глыбоўскага гэтак і не злавілі — ён, паводле пэўных зьвестак, уцёк праз акно ў суседні лес.

Навошта спэцслужбам спатрэбіўся Глыбоўскі? Ён быў сябром дэпартаванага чэха Міхала Плаўца. Агенты спэцслужбаў арыштавалі Плаўца, павезьлі на допыт, а ператрус кватэры, дзе жыў чэх, пакінулі на пасьля па мілай расейскай звычцы “да завтра падаждёт”. Калі ж назаўтра прыйшлі пад дзьверы, плёмба была сарваная, а ў кватэры застаўся толькі зашмуляны сеньнік і пустая пляшка з-пад піва. Дык разьюшаныя кадэбісты кінуліся шукаць Плаўцавых сяброў. Гэтак можна растлумачыць прыгоды тае суботы.

Невядома, дзе Ільля цяпер. Дакладна толькі тое, што ён на волі, што яму нічога не пагражае. І што 20-га ён адсьвяткаваў Дзень народзінаў.

**Б.Т.**

## Навіны за тыдзень



### ПАЦАНЫ СКРАЛІ С-300

**Беларуская вайсковая пракуратура накіравала ў суд крымінальную справу супраць сямі курсантаў Вайсковай акадэміі.** Падчас навучаньня хлопцы, відаць, пасьпелі расчаравацца ў матэрыяльных выгодах будучай афіцэрскай кар’еры. І вырашылі паклапаціцца аб сваім дабрабыце самі. Маючы доступ да навучальнага комплексу супрацьпаветранай абароны С-300, курсанты паціху «трыбушылі» яго. Балазе, попыт на радыёдэталі, якія ўтрымліваюць каштоўныя мэталы, на Ждановіцкім рынку быў і застаецца вялікім.

### ЗВОЛЬНІЛІ БЯЛАСІНА

**Яўген Бяласін, аўтар “НН”, кіраўнік берасьцейскай суполкі БНФ, звольнены з пасады старшага выкладчыка катэдры замежных моваў Берасьцейскага ўнівэрсытэту,** дзе адпрацаваў 20 год. Фармальна Бяласін прайграў конкурс на права працаваць на пасадзе старшага выкладчыка. Потым на катэдры зьявіліся дадатковыя месцы, аднак удзельнічаць у новым конкурсе яго ніхто не запрасіў. Бяласін лічыць, што ён звольнены з прычыны палітычных поглядаў, удзелу ў акцыях пратэсту й шматлікіх публікацыяў у незалежнай прэсе. Паводле яго словаў, унівэрсытэт пацiху пазбаўляецца ад палітычна актыўных выкладчыкаў. Рэктар унівэрсытэту Плецюхоў — ведамы лукашыст.

**Б.Т.**

### ТРАКТАРЫ ДЛЯ САДАМА

**Ірацкая прыватная фірма «Капры карпарэйшн», якая да ўвядзеньня эмбарга ажыццяўляла зборку чэскіх трактароў «Зэтар», зараз будзе зьбіраць нашыя «Беларусы».** МТЗ пляную прадаць братняму Іраку 3000 трактароў (патрэба іракага рынку — 45000 машынаў).

**Паводле БелаПАН**

### ІЗНОЎ ГАМБУРСКІЯ ЖЫДЫ?

**У цэнтры Віцебску, на Ўсьпенскай горцы, падчас пракладкі тэлефоннага дроту да будынку абласнога КДБ знайшлі чалавечыя косткі.** На думку археоляга Ігара Цішкіна, гэта парэшткі закатаваных вязьняў турмы НКВД. Косткі наўрад ці належаць ахвярам нямецкай акупацыі. Месцы масавых расстрэлаў падчас вайны знаходзіліся за горадам, бо немцы баяліся распаўсюду інфэкцыйных хваробаў. Не падобнае пахаваньне й да старых могілак — няма ніводнага фрагмэнту адзеньня ці труны. А Юрка Віцьбіч, які знаходзіўся ў Віцебску ў часе нямецкай акупацыі, згадваў, што ў ліпені 41-га, перад адыходам Чырвонай арміі, тут пасьпешліва расстралялі некалькі соцень палітвязьняў.

Вызначыць паходжаньне парэштакаў мусіць адмысловая экспэртыза. Але ў 1991 годзе, калі была зробленая аналягічная знаходка, экспэрты засьведчылі, што на Ўсьпенскай горцы збольшага знайшлі косткі жывёлаў. Між тым некалькі мяхоў гэтых костак ды сапраўдных чалавечых чарапоў дагэтуль захоўваюцца ў сутарэньні Віцебскага епархіяльнага ўпраўленьня.

**Паводле Радыё Свабода**

## Спартовы тыдзень

# Саша ды хакей

**У непрыемную сытуацыю трапіў лідэр нашай футбольнай зборнай Аляксандар Хацкевіч.**



IREX-PROMEDIA

Лабаноўскі, трэнэр кіеўскага «Дынама», дзе гуляе беларус, перавёў яго ў дублёры. Мо Лабаноўскі не дае Хацкевічу практыкавацца на полі, каб зьменшыць нашыя шанцы ў хуткіх гульнях з армянамі ды нарвэжцамі? Украінцы маюць на два балы меней за зборную Беларусі і мараць пра нашыя паразы. 2 чэрвеня, у дзень гульні з армянамі, Эдуард Малафееў сьвяткуе дзень народзінаў. Вось падступны Лабаноўскі і рыхтуе «падарунак»...

Нашы хакеісты ў суботу будуць гуляць на першынстве сьвету ў Нямеччыне з чэмпіёнамі плянэты, чэхамі. Потым — з швайцарцамі ды немцамі. Каб выйсьці ў наступнае кола, трэба заняць не апошняе месца ў групе. Нашыя добра папрактыкаваліся — на мінулым тыдні двойчы адцягалі за вушы аўстрыякаў, а ў нядзелю – латышоў: 6:3. Праўда, у панядзелак самі ад іх атрымалі — 1:3.

З чэмпіянату Эўропы вярнуліся з бронзавымі мэдалямі нашыя валейбалісткі. Малайчынкі!

**Богусь Біятлянёнак**

# *Музыка на шляху*

**23 красавіка ў парк-клюбе “Менск” БМА прэзэнтавала канцэрт чэскіх рок-гуртоў *Echt!, MCH Band* і *Už jsme doma,* які адбыўся ў рамках туру “Чэская музыка на шляху”.**

У Чэхіі з музыкай тыя ж праблемы, што і ў нас: музычны рынак перанасычаны ангельскімі і амэрыканскімі, часта нізкаякаснымі запісамі (у нас — расейскімі), а чэскія гурты ня могуць прабіцца на радыё.

Музыка чэхаў — цікавы сымбіёз традыцыйнага року і славянскай аўтэнтыкі. Іхная нацыянальная адметнасьць адчуваецца ў ёй вельмі яскрава — і гэта пры тым, што ў двух з трох гуртоў сольныя партыі граліся на акадэмічным саксафоне. А нашыя рокеры, збольшага, накладаюць беларускія тэксты на зьбітыя ангельска-амэрыканскія формы. Тутэйшы слухач, безумоўна, задаволены, але ў Эўропе гэткая музыка нецікавая, бо ў ёй беларускай адметнасьці ня бачна — традыцыйны рок-н-рол, рытм-н-блюз і г.д.

**Вікторыя Ластаўкіна**

## Пацярпелыя за Беларусь

19 красавіка ў Шабанах затрымалі Юрася Зянковіча, Уладзімера Жылача ды Андруся Бандаровіча. Яны машынаю везьлі ўлёткі да Чарнобыльскага Шляху. Машыну сканфіскавалі, назад пакуль не аддаюць. 21 красавіка на акцыі “Зубра” ў Менску былі затрыманыя Ірына Тоўсьцік, Пётар Садоўскі, Наміль Ахадаў, Яўген Афнагель, Дарыля Радкевіч, Сяргей П’яных, Аляксандар Боган, Якаў Сьцешык, Уладзімер Драздоў, Марыя Данілава, Валер Канстанцінаў, Валер Струй, Андрэй Крытка, Раман Карповіч, Кірыла Фізільман, Валер Жэрбін, Наста Чэрнік, Вольга Бурая, Ірына Паўлючэнка, Кацярына Шабан, Тацяна Кучко, Тацяна Морозава, Максім Абрамчук, Аляксандар Матвіенка, Павал Юхневіч, Натальля Краўчук, Аляксей Каменскі, Віталь Рымашэўскі, Дзяніс Арцюшкевіч, Антон Сяляўка, Зьміцер Гарбуноў, Тацяна Сьнітко (аўтарка “НН”), Тацяна Амялянава, Віктар Мухін (аўтар “НН”), Сьвятлана Данілава. У той жа дзень на акцыі пратэсту, ладжанай Маладым Фронтам, затрымалі Аляксея Шэіна, Аляксея Таўстова, Цімоха Атрошчанкава, Дзяніса Мархатка, Зьмітра Касьяровіча, Івана Тамашэвіча (яго затрымлівалі на гэтым тыдні і ў іншы дзень за расклейваньне ўлётак), Міхала Шаўцова, Стасю Басаву, Арыну Вяткіну, Алеся Кішчыка, Алега Крулякоўскага, Алеся Тарасава, Лявона Ачапоўскага, Зьмітра Ятчэню і сп.Шаблінскага. Студэнта IV курсу пінскай філіі Недзяржаўнага інстытуту кіраваньня і прадпрымальніцтва Вадзіма Макеева адлічылі з навучальнай установы. Суд у Менску вынес папярэджаньне за ўдзел у Дні Волі Ніне Ермалінскай. За ўдзел у пазалеташнім Маршы Свабоды Віктара Шчукіна пакаралі 3 месяцамі арышту і штрафам 30 мін.заробкаў, Міколу Статкевіча аштрафавалі на 100 мін.заробкаў. У Бабруйску падчас расклейваньня налепак руху «Зубр» затрымалі Віталя Красьнеўскага. У Віцебску за Дзень Волі – Барыса Хамайду і Ўладзімера Плешчанку, за ўлёткі “Зубра” – Вольгу Карач. Антося Мядзьвецкага, які распаўсюджваў спэцвыпуск газэты “Рабочы”, зьбілі амапаўцы (затрыманьнем кіраваў сэржант А.Афонін). Падчас “Дзён псыхічнага здароўя”, якія праходзілі ў Менску, затрымалі зуброўцаў Алеся Атрошчанкава, Валер’я Мацукевіча, Ігара Сольду, Алеся Апраніча, Зьмітра Драпачку, Яраслава Сьцешыка, Марыю Краснабаеву. У Гомелі за распаўсюд газэтаў затрымалі Зьмітра Карпенку.



УЛАДЗІМЕР ШЛАПАК

## Навіны гаспадарскія

# Гульні бяз правілаў

Сельгасвытворцы пры любых умовах павінны сабраць больш ураджай, чым летась, — такі загад прагучаў на чарговым сэлектарным шоў. Але, нягледзячы на аптымістычныя рапарты кіраўнікоў абласных “вэртыкаляў”, такіх праблемаў з грашыма, палівам і якасным насеньнем, як сёлета, у калгасаў не было ніколі. А большасьць “чарнобыльскіх” рэгіёнаў засталіся безь мінэральных угнаеньняў, то бок бяз шанцаў атрымаць больш-менш экалягічна чыстую прадукцыю.

Вакол сельскай гаспадаркі насьпявае і міжнародны скандал. Беларусь паабяцала прадаць у Расею 500 тыс. тонаў мяса. На мінулым тыдні прайшла інфармацыя, што гэтую задачу плянуецца вырашыць шляхам рээкспарту ялавічыны з Чэхіі — краіны з рызыкай распаўсюджваньня эпідэміі ящчуру. Цяпер Міністэрства сельскай гаспадаркі Беларусі клянецца, што ніякіх перамоваў наконт гэтага з чэхамі не было. Хаця афіцыйна гэтая інфармацыя дагэтуль не абвергнутая.

Нечаканасьцю мінулага тыдня сталася спыненьне Менскага аўтазаводу. Прадпрыемства ня можа набыць неабходную колькасьць рухавікоў у Яраслаўлі — няма грошай. Цяпер беларускі ўрад рыхтуецца часткова вызваліць МАЗ ад падаткаў, але невядома, ці гэта дапаможа. Відаць, буйны расейскі бізнэс вырашыў папросту “прыціснуць” МАЗ, а потым зьявіцца ў якасьці адзінага “выратавальніка” і без асаблівых цяжкасьцяў атрымаць дазвол на прыватызацыю прадпрыемства.

Тым часам прыватныя прадпрымальнікі сталіцы сьвяткавалі маленькую перамогу. Менскі гарсавет падтрымаў іх у спрэчцы з мэрам Паўлавым і ня даў згоды на падвышэньне стаўкі падаткаў.

**Сяржук Іваноўскі**

# Перабольшаны Чарнобыль

**Тэмаю папулярнага польскага часопісу «Упрост» ад 14 студзеня стала сэнсацыйна пададзеная падборка матар'ялаў пад загалоўкам «Чарнобыль — найбольшы блеф XX стагодзьдзя». Польскія журналісты грунтаваліся на дакладзе, падрыхтаваным Навуковым камітэтам ААН у справах наступстваў атамнага апраменьваньня (UNSCEAR)**

Даклад рыхтавалі 142 спэцыялісты з 21 краіны. Яны прыводзяць у дакладзе наступныя лічбы: толькі ў 134 супрацоўнікаў ЧАЭС, пажарных і ратаўнікоў, што змагаліся зь нягодай непасрэдна на станцыі, разьвілася прамянёвая хвароба, і 30 зь іх памёрлі. 381 тыс. ліквідатараў атрымалі дозы апраменьваньня ў сярэднім у 10 разоў ніжэйшыя за небясьпечны для жыцьця ўзровень (1000 мілізывэртаў). Няма зьвестак, якія б сьведчылі, што за 14 гадоў пасьля Чарнобылю недзе вырасла лічба захворваньняў на рак, сьмяротнасьць або нейкія іншыя захворваньні, зьвязаныя з апраменьваньнем. Адзіны рост захворваньняў, які зафіксаваны ў забруджаных раёнах, — гэта рост псыхасаматычных хваробаў органаў дыханьня, страваваньня і нэрвовай сыстэмы, ніякім чынам не зьвязаны з радыяцыйным забруджваньнем, але непасрэдна абумоўлены радыёфобіяй, страхам за сябе і за дзяцей, перадусім боязьзю захварэць на рак.

Першымі ахвярамі страху ў 1986—1987 г. сталі ненароджаныя дзеці. Колькасьць спаронаў тады вырасла ў пэўных рэгіёнах Беларусі да 25%: жанчыны баяліся, што народзяць мутантаў. Між тым, ніякага росту генэтычных адхіленьняў у дзяцей зафіксавана не было, — сьцьвярджае даклад. — Ды ён і немажлівы, — мяркуюць дасьледчыкі з ААН, — бо і ў ахвяраў Хірасімы й Нагасакі ня выяўлена ніякіх генэтычных парушэньняў. Адзіным сапраўды рэальным наступствам аварыі могуць быць 1800 выпадкаў раку шчытавіцы, зарэгістраваных у дзяцей зь Беларусі, Украіны, Расеі за 14 гадоў пасьля Чарнобылю (з прычыны атрыманьня вялікай дозы радыёактыўнага ёду ў першыя дні па аварыі). Але й ня ўсе гэтыя выпадкі абумоўленыя Чарнобылем. Рак шчытавіцы, пішуць экспэрты UNSCEAR, разьвіваецца праз 6—9 гадоў пасьля апраменьваньня, а ў лічбу 1800 уваходзяць і выпадкі раку, зафіксаваныя за год і два пасьля аварыі. Проста раней адпаведная статыстыка зусім не вялася, дык няма з чым параўноўваць. Такіх дасьледаваньняў да аварыі ў Беларусі і Ўкраіне папросту не праводзілася. На Чарнобыль сталі сьпісваць усё запар. Тыповы прыклад — скандалы вакол фільмаў «Чарнобыль: ускрыцьцё хмары» (Францыя, 2000) і «Ігар — дзіця Чарнобылю» (Брытанія, 1998). У апошнім гаворыцца пра Ігарка з-пад Менску, які нарадзіўся ў 1988 г. зь недаразьвітымі ручкамі-ножкамі. Фільмы прыпісвалі чарнобыльскай катастрофе віну за генэтычныя парушэньні, якія сустракаюцца ва ўсіх краінах. Гэта выклікала рэзкі пратэст французскіх і брытанскіх навукоўцаў.

Часопіс «Упрост» называе Чарнобыль «прыбытковым мітам». Фінансавая дапамога часткова асядае ў кішэнях тых, хто яе разьмяркоўвае. Яна таксама ідзе спэцыялістам, што працуюць у сфэрах, зьвязаных зь «ліквідацыяй наступстваў». Перабольшаньне страху выгоднае таксама міжнароднаму экалягічнаму руху, які фіксуе ў Беларусі сп.Астапенка.

Наша грамадзтва любіць сьпісваць на радыяцыю беды, зьвязаныя з заніжанымі сацыяльнымі стандартамі, культурнаю катастрофаю ці страшэннаю беднасьцю краіны, карані якіх трэба шукаць зусім не ў Чарнобылі. Ад «палітычнага і культурнага Чарнобылю» нашым людзям больш пакутаў, чым ад экалягічнага.

Паніка агарнула сьвет па выкідзе ў атмасфэру вялікіх колькасьцяў радыёактыўных рэчываў у красавіку 1986 г. Стварылася атмасфэра страху, *якая дагэтуль паралізуе грамадзкую думку*. Выбух рэактара ў Чарнобылі ня быў аднэй з найбольшых трагедыяў, — такую выснову робіць UNSCEAR, — наступствы аварыі стала перабольшвалі.


АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

Беларусі: пабудова атамнае станцыі пад Дуброўнаю істотна зьменшыла б залежнасьць Беларусі ад паставак расейскага газу і нафты.

«Чарнобыльскае лобі» адстойвае думку, што «Беларусі выгадна акцэнтаваць увагу на наступствах Чарнобылю», бо гэта дазваляе прыцягваць у краіну гуманітарную дапамогу і фінансавыя субсыдыі. Субсыдыяў проста няма. Памеры дапамогі істотна саступаюць шкодзе ад «радыяцыйнага іміджу» прадукцыі нашай сельскай гаспадаркі і нашай краіны як такой.

У любым разе, мы мусім імкнуцца да праўды і толькі праўды: што ў наступствах Чарнобылю бясьпечна, а што небясьпечна. Звычка ўспрымаць Чарнобыль як «касьмічную катастрофу», «абсалютную бяду» наносіць шкоду людзям нават на пабытовым узроўні: паколькі з абсалютнай пагрозай немагчыма змагацца, дык людзі і махаюць на ўсё рукой. «Чаму гэта сваю бульбу есьці можна, а грыбы зь лесу — не? А, усё адно не ўратуешся...» З-за паўсюднага перабольшваньня людзі страчваюць асьцярожнасьць. «Агітацыя за няшчасьце» замінае разумець і ліквідаваць рэальныя наступствы катастрофы.

Патрэбныя праўдзівыя статыстычныя зьвесткі і рэальная карціна. Інакш нашай «агітацыі за няшчасьце» хутка зусім перастануць верыць у сьвеце. І тады мы пазбавімся тае часткі дапамогі, якая сапраўды патрэбная. Патрэбная праўда пра Чарнобыль, трэба пераламіць тую атмасфэру няпраўды, што пануе ў нашым грамадзтве скрозь.

Чарнобыльскае забруджваньне было нагодай удыхнуць новае жыцьцё ў адсталы паўднёвы ўсход краіны. Гэтага не адбылося. Паляпшэньне інфраструктуры (транспартнай, пабытовай) не суправаджалася зьмяненьнем структуры эканомікі. Можна лічыць, што добрая частка інвэстыцыяў пайшла на глум...

Пэўныя беларускія зьвесткі пацьвярджаюць рацыю дакладу UNSCEAR. Паказчыкі колькасьці захворваньняў нязначна розьняцца па рэгіёнах краіны. На Гомельшчыне і Магілёўшчыне яны вышэйшыя, але вышэйшыя прыкладна на столькі, на колькі там горшая агульная сацыяльна-эканамічная сытуацыя, г.зн. роўна настолькі, наколькі «якасьць жыцьця» ніжэйшая, чым на Гарадзеншчыне ці Берасьцейшчыне, а, скажам, узровень злачыннасьці вышэйшы.

мае справядлівыя мэты, але не заўжды карыстаецца сумленнымі сродкамі.

Часопіс «Упрост» цытуе інтэрвію Ўладзіслава Астапенкі, кіраўніка беларускага Інстытуту радыяцыйнай мэдыцыны, які заявіў агенцтву *Reuters*, што «ў выніку чарнобыльскай аварыі Беларусі пагражае дэмаграфічная катастрофа: ужо некалькі гадоў сьмяротнасьць перасягае нараджальнасьць, колькасьць абортаў — лічбу родаў, а дзяцей з генэтычнымі ганамі штогод нараджаецца 2,5 тыс.». Часопіс абвінавачвае Астапенку ў поўнай некампэтэнтнасьці або наўмыснай маніпуляцыі грамадзкай думкай. Дэмаграфічны крызыс спасьціг ня толькі Гомельшчыну, але й «чыстыя» Чувашыю ці Баўтарыю, гэтаксама й там вырасла і лічба абортаў. Гэта агульнарэгіянальная тэндэнцыя, зьвязаная з эканамічным і маральным крызысам. А сытуацыя з генэтычнымі парушэньнямі ў Беларусі яшчэ больш чым аптымістычная. Бо незалежна ад Чарнобылю ў любой чалавечай папуляцыі іх бывае ў сярэднім каля 6% — г.зн. у 5 разоў болей, чым

У Беларусі ніхто дагэтуль не паспрабаваў абвергнуць высновы, зробленыя UNSCEAR. Нічога істотнага не адказалі ў нашых акадэмічных інстытутах і журналістам «НН» — усё агульныя фразы пра «атамнае лобі».

Палітычнае значэньне чарнобыльскага міту зьмяншаецца. Але ня меншае колькасьць «панікмэйкераў», якія эксплюатуюць радыяфобію, — ад Алексіевіч да Бандажэўскага. У першых шэрагах «агітатараў за няшчасьце» — кіраўніцтва чарнобыльскіх раёнаў. Яно высмоктае зь бюджэту сродкі, што маглі б быць укладзеныя ня ў Брагін, а ў Карэлічы. Зь імі ж — чарнобыльскія «дзіцячыя фонды», вакол якіх дзясяткі тысячаў людзей цынічна кормяцца з сыстэмы «гуманітарнай дапамогі» і «аздараўленьня дзяцей».

«Мы яшчэ не асэнсавалі гэтай касьмічнай катастрофы», — на апошнім тыдні зноў уся незалежная прэса ад газэты «День» да «Навінаў БНФ» брыняла апакаліптычнымі інтэрвію Сьвятланы Алексіевіч. Да нагнятаньня «чарнобыльскай гістэрыі» падключаецца й «ітэра-газпрамаўскае лобі» ў

Калі «Ўпрост» мае рацыю, беларусы могуць узьдыхнуць з палёгкай: цяжар, зь якім краіна ўступае ў новае тысячагодзьдзе, не такі вялікі, як меркавалася. «НН» вернецца да гэтай тэмы.

**Барыс Тумар**

# Вышэйшае за страх

Сяргей Варыводзкі

Чарнобыль. Быў ён ці не? Нібыта быў. Адпаведныя дзяржаўныя інстытуцыі функцыянуюць, радыяцыйны фон кантралюецца, гуманітарная дапамога паступае, народ абсьледуецца, лечыцца і рэабілітуецца, дзяцей возяць за мяжу адпачываць (няясна, праўда, ад чаго). Рэгулярна зьбіраюцца навуковыя канфэрэнцыі, праблемы ставяцца і рашаюцца, народ прызвычаіўся, жыве сабе.

Пры гэтым аварыя на ЧАЭС дасёньня застаецца найістотнейшым Страхам, у якім жыве Беларусь. Супаўшы па часе з пачаткам Перабудовы, яна сталася перадвесьцем пераменаў, што зьмянілі нашае жыцьцё, прынесьлі незалежнасьць, інфляцыю, галечу, адсутнасьць пэрспэктываў і арыентацыі. Чарнобыль і цяпер яшчэ ўзмацняе працэсы дэградацыі й разбурэньня. Страх пасьля катастрофы трохі сьцішыўся, але застаецца ў падсьвядомасьці ці пераходзіць у тупую стомленасьць ад згадкі пра яе. Ну колькі можна! Страх дыктуе свой узор паводзінаў: баяцца — хавацца — унікаць. Навуковымі й дзяржаўнымі захадамі рады яму не дасі.

Але жыць пры Чарнобылі трэба. Калі спадзяемся ўвогуле *жыць тут* надалей, трэба ўсьвядоміць: жыць з Чарнобылем давядзецца і нам, і нашым нашчадкам. Страх можна перамагчы, калі паставіцца да Чарнобылю, як да пэўнага выпрабаваньня, кшталту вайны, палётаў у космас, экспэдыцыі на полюс, выжываньня ў пустэльні ці альпінізму. На стаўленьні да іх (а дакладней па ўдзеле — уласным, чынным ці адвольным) чалавецтва падзяляецца на Герояў і проста людзей. Апошнія мусяць усё трываць, не набываючы ніякага станоўчага досьведу. Першыя, нават аднакроць далучыўшыся да Здарэньня, выпрабаваўшы сябе ім — ніколі не застаюцца ранейшымі. Вядома, перажываюць такія Здарэньні ня ўсе. Але выбар, як загінуць — на жабрацкім шпітальным ложку ці ў выпрабавальным агні — застаецца за чалавекам. Мляваe народанасельніцтва няздольнае нават убачыць Выбар. Яму прасьцей баяцца, піць, наракаць на злыя ўлады й марыць пасьлаць дзяцей за мяжу (як яшчэ нядаўна ў горад).

Выпрабаваньне даецца лёсам ня кожнаму народу. Нашыя Продкі годна прайшлі набегі, няўроды, маравыя пошасьці, голад. Мы маем Чарнобыль. Дык будзьма ж вартымі яго, каб дзеці бачылі вышэйшае за страх.



***ЧАРНОБЫЛЬСКІ ШЛЯХ:***
***чацьвер, 17.00***

«Чарнобыльскі шлях» сёлета ў Менску мае прайсьці 26 красавіка. Арганізатары запланавалі такі сцэнар: маніфэстанты зьбяруцца а 17-й на плошчы Свабоды і пасьля ўрачыстай супольнай імшы па ахвярах Чарнобылю рушаць да Дому Ўраду з пэтыцыяй. Калі ўлады заблякуюць рух на плошчы, як на Дзень Волі на Юбілейнай, акцыяператворыцца ў сядзячую, абяцаюць арганізатары.

## Тартак “Жоўтая сьмерць”

**У вёсцы Вепрына Чэрыкаўскага раёну са жніўня мінулага году функцыянуе цэх па перапрацоўцы радыёактыўнай драўніны.** Узровень забруджаньня тут значна перавышае 15 кюры на кв.м. Штодзень рабочыя-сьмяротнікі пілуюць дошкі з навакольнага лесу, які пастаўляюць іншыя сьмяротнікі – пільшчыкі. Начальства не паклапацілася нават, каб стварыць людзкія ўмовы працы на страшнай пілараме: рабочыя харчуюцца лустамі, што бяруць з дому. Асноўны пакупнік вепрынскіх дошак — нейкая маскоўская фірма, якая плаціць за іх саляркай. Далейшы лёс прадукцыі невядомы.

**Паводле БелаПАН**

## Ліст у рэдакцыю


УЛАДЗІМЕР ШЛАПАК

## Курапаты: па сьлядох мінулага

Мне давялося нарадзіцца ў дзень гвалтоўнай сьмерці беларускага паэта Тодара Кляшторнага, які быў рэпрэсаваны 30 кастрычніка 1937 г., але з розьніцай у больш чым сорак гадоў. Дачка паэта, Мая Кляшторная, мяркуе, што бацька быў расстраляны ў Курапатах, як і тысячы іншых ахвяраў. У суботу яе, а таксама сяброў "Мартыралёгу Беларусі" можна было пабачыць у тым жалобным месцы за працай па ўпарадкаваньні мэмарыялу і падрыхтоўцы да сьвята Радуніцы.

Тыя некалькі дзясяткаў крыжоў, што стаяць зараз у Курапатах, перавязаныя белымі і бел-чырвона-белымі хустачкамі. Тут заўсёды спакойна... Толькі на купіне сярод кустоўя я пабачыў белую чалавечую костку...

Курапаты чакаюць новых крыжоў.

...Пад вопліскі асеньня
Вось там,
У тыя дні
Мяне па той аселіцы
Расстрэльваць вялі...

Тодар Кляшторны.
Па сьлядох мінулага

**Андрусь Белавокі, Менск**

# Каханьне маё, Хірасіма

## споведзь

– Ты ўсё выдумала.
– Я нічога ня выдумала.

**Маргерыт Дурас, "Каханьне маё, Хірасіма"**

Штогод 26 красавіка: раніца-тлум-царква-вячэра. Некага шукаю – каб расчыніў фортку і сьцёр з памяці і гэтае 26 красавіка. Успаміны рэшткамі археаптэрыкса, якому пашчасьціла трапіць у беспаветраную прастору, завакуумаваны немагчымасьцю імі падзяліцца. Яны часам скуголяць ад бясьсільля, немагчымасьці прабачыць, каб палюбіць, ня ведаючы, што і каму.

У мяне два жыцьці. Адно – ля сініх водаў Прыпяці, разьведзеных мерным гулам вуліцы Курчатава. Другое – тут, на новым месцы жыхарства, пад Менскам, сярод "чарнобыльцаў". Два анёлы-ахоўнікі, і я чую шоргат іх крылаў.

Неправетраны пакой. Ненавіджу прыцемкі. Ненавіджу жыцьцё пасьля 26 красавіка. Так – у вязаных шкарпэтках па сьнезе ў трыццацігрaдусны мароз. Так – чакаць, хаваючыся за рогам дому, каб ня ўбачылі. Так – быць нязадольным заплакаць. Скуголіць магу – 26 красавіка, чапляючыся за вушак дзьвярэй. Камэдыя дый годзе: вочы ня бачаць, ногі не трымаюць. Плакаць – па-сапраўднаму, каб адчуць, якія яны, слёзы, – не магу. Тыя двое махаюць белымі да рэзі ў



вачах крыламі, суцяшаюць, баяцца запэцкацца сьлязьмі і сьлінаю. Зрэшты, я заўсёды трымаю сябе ў руках. Але калі раптам бачу на вуліцы шчасьлівае дзіця з бацькам – шукаю бязьлюдзьдзя, нары, пячоры, бо сёньня – 26 красавіка.

Я верыла ў казкі і цуды. Тата казаў, што яны бываюць. Тата хлусіў, бо і чараўніка, і бога ён граў сам. Але ён быў побач, і я верыла, да таго ж, у календары не было 26 красавіка.

Тата любіў незабудкі, мяне, "Аддаеш назаўсёды" Герчыка і ящчэ раз мяне. Усё пачалося зь Дзеда Мароза: тата не схаваў завязкі, што трымалі бараду, і не пераабуў пантофлі. Ці ж варта было самому класьціся на гаршыньку і накрывацца тысячамі пяры-наў?

– *Хі-ра-сі-ма. Гэта тваё імя.*

– *Так, гэта маё імя. А тваё тады – Нэвэр.*

Навошта яму спатрэбіўся гэты горад пасьля 26 красавіка? Прага прыгодаў? Любоў да малой радзімы? Навошта матэрыял абесчалавечаны, калі вялікае дабро, па сутнасьці, – пакульле, якім кропяць вернікаў сьвячонай вадой. На каго трапіць, да каго не даляціць, але ўсе нахабна пнуцца наперад, пакрапіць не адно чало, але і шыю, грудзі, рукі. Чыняць тлум дзеля пакульля, а можна ж падысьці і проста напіцца.

Усявышні быў расшчодрыўся і прывёў мяне на сьвет, па мэтрыках, сама на Ўвядзеньне. Насамрэч, 26 красавіка – вось дзень маіх народзінаў і маё імя па хрышчэньні. Гэта лепш стасуецца з жыцьцём сьпісжанага шчанюка з падабраным хвастом і перабітымі лапамі. Мне таксама перабівалі рукі. Левую, каб пісала, "як усе". Ящчэ засталося галаве, зь якой выбівалі "это уродство" – украінскую мову.

Пішу правай, гавару па-расейску – старанная вучаніца.

Яно кожны дзень – 26 красавіка: страшна нешта ўзяць, раптам не маё, ці нельга плебею, які марнуе беларускі харч. Усё раблю цікаючыся, бы злодзей, – каб нікому не замінаць. Распушчальная кава ў плясціковым кубку – сама тое. Аддае вакзалам і транзытам, нават блізкія людзі адыходзяць з дакладнасьцю чыгуначнага раскладу. Грэх скардзіцца: транзытнае жыцьцё – жыве, час лечыць абсалютна ўсё. Але ў кожнага свой Салярыс.

А з жаданьнаў: каб 26 красавіка людзі пазатыкалі сабе раты гэтым абадраным папоўскім пакульлем, кінулі плявузгаць на памяць і чапляць вінаватым на шыю крыжы невінаватасьці. Адно каб яны змоўклі. Можа, у цішыні зноў пачуецца шоргат крылаў.

**Ліда Куратава, Менск**

# БЕЛАРУСЬ ПРАЗ 100 ГАДОЎ

# Марскі порт Горадня

Я прачнуўся ў час. 100 год мінула, як я згадзіўся стаць лябараторным пацуком у напаўлегальным выпрабаваньні. Прафэсар Кашэўскі шукаў валанцёра, а я — схованку ад міліцыянтаў... Атрымаўшы колькі ўколаў і начапіўшы нейкі напысьнік, я паклаўся ў тэрмакамэру. Сёньня прачнуўся. Паміж учора і сёньня — пустка ў 100 гадоў. Пражыўшы пару месяцаў у XXI ст., я стаўся жыхаром XXII-га. З траўня 2001 г. — у травень 2101 г.

Найбольш мяне насьцярожыла адсутнасьць журналістаў падчас майго ачомваньня. Як патлумачыў д-р Кашэўскі (выліты прапрадзед), у гэтым няма патрэбы. Камэры-мікрачыпы назіраюць за намі й трансьлююць на Сусьвет.

Хоць кішкі мае марш гралі, перш-наперш я, як палітуцякач, пацікавіўся палітычнай сытуацыяй. А ну як вынайшлі, крый Божа, эліксір несьмяротнасьці, і дыктатар, галоўная прычына маіх уцёкаў, не памёр? Памёр! — кажа Кашэўскі. Як і ўсе Вашы знаёмыя й сябры і мільярды іншых былых сучасьнікаў, ціха дадаў ён.

Эліксіру ня вынайшлі, але ж розных штучак напрыдумлялі за стагодзьдзе — фіранкі выконваюць ролю электроннага экрану...

Кашэўскі папярэдзіў, што адаптавацца да новай рэальнасьці мне трэ будзе паступова, каб пазьбегнуць псыхалягічнага шоку. Напачатку ён уключыў мне — на тых самых фіранках — фільм кшталту хронікі падзеяў у сьвеце. Галоўнае, што іх (нас?!) цяпер цікавіць, турбуе і яднае — пацяпленьне на Зямлі, ад якога растае Антарктыда. Я пабачыў жывы этэр са спадарожніка — апошні лапік лёду вакол паўднёвага Полюсу. Шкада пінгвінаў... І Ледавіты акіян больш зусім не ледавіты. А вось адзначаецца сусьветны дзень памяці Нідэрляндаў — адзінай краіны, якую зусім не ўдалося ўратаваць, яна цалкам сышла пад ваду. Яго сьвяткуюць нашчадкі галяндцаў па ўсім сьвеце і іншыя небаракі разам зь імі. Дзень Нідэрляндаў, Гамбіі, Гвінэі-Бісаў і акіянскіх выспаў для сьвету — як дзень Хатыні і Курапатаў для Беларусі, патлумачыў Кашэўскі, — дзень смутку й салідарнасьці. Змаганьне з акіянам зьядынала ўсе цывілізаваныя народы.

Паказалі Балтыйскае мора, што пачало пашырацца ў сярэдзіне XXI ст. Узровень вады ў ім узьняўся на сотню мэтраў. Эстонія, Латвія (акрамя Латгаліі), Піцерская акруга цалкам адышлі да каралеўства рыбаў. Скандынавы цяпер жывуць на высьпе. Амаль уся Летува пад вадою. Вільня з ваколіцамі нагадвае Вэнэцыю — вулічкі старога места ператварыліся ў каналы.

Сыстэма дамбаў і помпаў спыніла Нэптуна на падыходах да Беларусі. Горадня — адзін з найвялікшых балтыйскіх партоў. Нёманскі фарватэр, былое рэчышча Нёмана, быў пашыраны ў 80-х. Дзякуючы разнастайным мерапрыемствам беларускага ўраду штогод у вады адваёўваецца некалькі квадратных кілямэтраў. Рэшткі тэрыторыі прыбалтыйскіх краінаў перададзеныя пад апеку Беларусі, якая адна ў рэгіёне здольная пасьпяхова змагацца з акіянам. Новая фэдэрацыя завецца Вялікая Літва. Яе сталіца — Нясьвіж. Туды ўжо перанесеныя Вострая Брама й касьцёл Сьв. Ганны. Іншыя сьвятыні чакаюць свайго часу. Латышы гуртуюцца на рэштках сваіх земляў, аднак і ў Полацку кожны другі жыхар — латыш. Эстонцы ў большыні эміігравалі ў Фінляндыю, дзе ім вылучылі землі на ўсходзе пад Новую Эстонію...

Я бачу сваю навюткую (векавую?!) торбу, што стагодзьдзе прастаяла ля тэрмакамэры, і не вытрымліваю. Няўжо адтуль за сто гадоў ніхто ня скраў трох пляшак добрага грузінскага «Кіндзмараулі»? Ня скралі!!! І, выдушыўшы корак усярэдзіну, разьліваю па колбах. Кашэўскі ненастойліва прэчыць, відаць, толькі дзеля прыліку — маўляў, можа адбіцца на Вашым здароўі. І прызнаецца, што ніколі такога старога віна ня піў.

Мы ляснулі патрохі, і падалося мне, што Кашэўскі добры хлопец, толькі крыху дзіўнаваты. І чаму ён ня мае ніякіх памочнікаў? Мо пра наш экспэрымэнт ня ведае ніхто, апроч сям'і Кашэўскіх? Мо ў іх такія экспэрымэнты забароненыя? А мо і алькаголь строга забаронены, што ён гэтак на яго кідаецца? А мо ён алькаголік нейкі?

— Кіславатае, затое гістарычнае!..

Тымчасам на электроннай фіранцы пачаліся навіны тыдня. На экране маніфэстанты палілі пудзілы беларуса й украінца ў нацыянальных строях. Гэта палешукі дамагаюцца аўтаноміі у складзе Беларусі і Ўкраіны і больших гарантыяў ад прарыву акіянскіх водаў у палескія нізіны. Іхныя радыкалы аб'ядналіся ў тэрарыстычную групоўку "Палескі Балотны Рух", які правёў шэраг тэрактаў: закідаў памідорамі старшыню парлямэнту Беларусі падчас яго паездкі ў Салігорск, дзе сканчаецца перапрацоўка адвалаў вытворчасьці калійнай солі, абліў фарбай прэзыдэнта Ўкраіны. Учора Найвышэйшы Суд Беларусі забараніў ПБР.

— Што ты мне пра гэтых палешукоў, ты мне пра маскалёў распавядзі, пра незалежнасьць! Чым скончылася барацьба з акупантамі?..

Захмялелы Кашэўскі па-змоўніцку заўсьміхаўся.

— Галоўная зьмена — што "дз" і "дж" цяпер пішам адной літарай. А Расеі тваёй ужо 50 год як няма, ёсьць 12 краінаў Байкальскае дамовы. Павышэньне ўзроўню акіяну моцна дэзынтэгравала яе, падзяліўшы на кавалкі.

І дадаў нібы завучаную ў школе думку:

— Абвешчаная ў 1991 г. незалежнасьць — галоўны чыньнік, які ўплываў і будзе ўплываць на лёс Беларусі. Супраўджаў і надалей будзе супраўджаць яе, як анёл-абаронца.

Мы адкаркавалі другую бутэльку віна і ўсё глядзелі і глядзелі некім старанна адабраныя навіны. Хапае і ў іх (у нас?!) беспрацоўя, міграцыі, экалягічных праблемаў, наступстваў радыяцыі, новых хваробаў...

І пасьля трэцяй пляшкі я зароў:

— Адпраўляй мяне ящчэ наперад, ящчэ на сто, дзьвесьце, тысячу год! Працягвай экспэрымэнт! Там, напэўна, будзе лепш.

І палез ізноўку ў тэрмакамэру, па свой квіток да Раю, дзе ўжо пэўна добра будзе ўсім.

**Равяка Руслан**

**БТ вачыма беларуса**

# "Няправільныя" рыцары

**Даўно на БТ не здымалі праграмаў з этэру.**

Папросту не было чаго – усё "небясьпечнае" даўно забаранілі. І вось на Вялікдзень абяцалі нам у "25-м кадры" перадачку "Рыцары XXI стагодзьдзя" пра нашыя рыцарскія клюбы. За тыдзень распачаліся анонсы, але ў нядзелю замест рыцараў нейкі праваслаўны сьвятар распавядаў пра "расейскія прозьвішчы". Чаму поп на экране – зразумела, Вялікдзень. Чаму праваслаўны – таксама. Але ж і рыцары ў нейкім сэнсе "крыжакі", дый БТ іх нам само цэлы тыдзень абяцала! Чаму раптам перадумалі?

Кожная праграмка праходзіць незьлічоную колькасьць папярэдніх праверак на розных узроўнях – ад абмеркаваньня задумы да вычыткі кожнага слова ў змантаваным варыянце. У выпадку з "Рыцарамі" ўсіх усё задавальняла. Але ў пярэдвелікодны чацьвер Чыкін праграму забараніў. Можа сам дадумаўся, а можа й падказаў хто.

Афіцыйна прычына растлумачаная не была. На БТ ходзяць дзьве вэрсіі, якія адна адной не выключаюць. Першая – стандартная: Чыкіну "запахла нацыяналізмам". Хоць праграма была абсалютна апалітычнай, з двух запрошаных кіраўнікоў рыцарскіх клюбаў толькі Фёдар Міхееў прадстаўляў клюб "вялікакняскае" скіраванасьці ("Княжы гуф") – дый той размаўляў па-расейску на агульнарыцарскія тэмы.



АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

Другой магчымай прычынай забароны стаўся, як ні дзіўна, клюб "Ордэн Паўночнага храму", які прадстаўляў Зьміцер Нісьцюк – сын палітыкасацыяліста. Выразная "празаходняя" арыентацыя гэтага ордэну тампліераў, відаць, чымсьці перашкаджала праваслаўнаму Вялікадню. Бедныя тампліеры – спачатку ім рымскі Папа жыцьця не даваў, потым камуніст...

Зважаючы на гэта, вельмі дзіўна, што нам сабраліся-ткі паказаць ящчэ ўвосені гатовую й тады ж з этэру зьнятую праграму пра Забэйду-Суміцкага. 24 красавіка яна выйшла ў этэр.

**Арцём Лук'яновіч, Менск**

# Наша Ніва 90 гадоў таму

**Менск.** Ходзяць чуткі, што пасьля таго, як будзе заведзена ў нас выбранае земства, цяперашні прадсядацель земскай управы Родзевіч страціць месца. Не памагла і гульня ў чарнасоценства. Заместа Родзевіча мае быць менскі прадвадзіцель дваранства Папа-Афанасопула, — тады, бадай, усплыве наверх шмат грахоў цяперашняга чыноўніцкага земства.

Дагэтуль Менская губэрня дзялілася на 9 паветаў, а цяпер маняцца разьдзяліць яе на 11 паветаў, назначыўшы мястэчкі Тураў і Баранавічы паветовымі гарадамі.

**Мікола Камароўскі «Наша Ніва», 21 красавіка 1911 г.**

## Новы праект "Нашае Нівы"



2101 год. Якой будзе Беларусь праз 100 гадоў? Якой будзе дзяржава і які дзяржаўны лад? Якімі будуць гарады? Які горад будзе сталіцай Беларусі? Якімі межы краіны? Што беларусы будуць есьці? Якімі будуць беларускія грошы? Якім транспарт? Якімі сродкі масавай інфармацыі? Якая літаратура будзе чытацца? Ці застануцца тэатры? Якія імёны будуць самымі папулярнымі? Якімі стануць лясы і рэкі? Ці можна будзе купацца ў забруджаных сёньня азёрах? Якія зьвяры зьнікнуць, якія новыя расьліны завядуцца? Што будзе з чарнобыльскай зонай? У якіх цэрквах будуць маліцца людзі? Што яны ведацьмуць пра 2001 год? Што будзе з намі?

**Пачынаючы з 25 сакавіка штотыдня — мары і фантазіі пра будучыню Вечнай Беларусі, эсэ, прагнозы і футуралягічныя артыкулы ў новай рубрыцы "НН" — "Беларусь праз 100 гадоў". З гэтага выйдзе цэлая кніга! Чакаем Вашых допісаў. Будзем загадваць.**

# Прылітаратурнае хуліганства

**В.Гаўф, Э.Т.А.Гофман, Ш.Пэро. Прыгажуня ў сонным лесе: Казкі / Для мал. шк. веку; Пераклады ў бел. мову; Укл. У.Карызна, Маст. В.Сідарава. — Менск: Юнацтва, 2001.**




У “НН” ад 9 красавіка прачытаў нататку В.Мухіна пра кніжку літаратурных казак Гаўфа, Гофмана ды Пэро “Прыгажуня ў сонным лесе”, што надоечы выйшла ў дзяржаўным выдавецтве “Юнацтва”. *“Усяго за 750 р. творы найвыдатнейшых эўрапейскіх казачнікаў у перакладзе Кандрата Крапівы, Якуба Коласа ды іншых беларускіх пісьменьнікаў”*, — піша аўтар. Як кажуць, адно цемрашальства спараджае цемрашальства другое. Але пачнем па парадку.

Кнігу “Прыгажуня ў сонным лесе” ўклаў паэт-песеньнік, ляўрэат савецкіх ды лукашэнкаўскіх узнагародаў Уладзімер Карызна. На адвароце яе тытульнага ліста пазначана *“Для дзяцей малодшага ўзросту”*. Можна спрачацца, ці зразумеюць чацьвертаклясьнікі гэткія творы, як “Адсечаная рука” Гаўфа ды “Шчаўкунчык” (*так у перакладзе з расейскае мовы Віктара Гардзея* — **Л.Б.**) Гофмана. Але адно я магу сказаць цьвёрда. Навэля Гофмана “Кавалер Глюк” (*гэтак у перакладзе з расейскае мовы Міколы Маляўкі* — **Л.Б.**) вывучаецца, згодна з праграмаю, **дзевяціклясьнікамі** Беларускага ліцэю імя Якуба Коласа. І ў 15-гадовых падлеткаў увесь час узьнікаюць праблемы з разуменьнем філязофіі гофманаўскага рамантызму. Дарэчы, чытаюць ліцэісты гэтую навэлю ў перакладзе, зробленым з мовы арыгіналу Васілём Сёмухам яшчэ ў 1995 г. і апублікаваным у 20-м выпуску “Крыніцы” (“Рыцар Глюк” (па-нямецку “*Ritter Gluck*” — **Л.Б.**) №4 за 1996 г.). Чаму ж у зборніку зьявіўся пераклад з расейскае мовы, зроблены Міколам Маляўкам?

Але гэта яшчэ не галоўная бяда названага зборніка. Уладзімер Карызна не запрапанаваў ані Васілю Сёмуху, ані Ўладзімеру Чапегу, ані Яўгену Бяласіну, ані Ўладзімеру Папковічу, ані хоць бы аўтару гэтых радкоў (у якога, дарэчы, у стале пыляцца рукапісы перакладаў з таго ж Гаўфа ці братоў Грымаў) узяць удзел у падрыхтоўцы гэтага выданьня — відаць, з ідэалягічных меркаваньняў. Куды прасьцей і выгадней перакласьці самому з расейскае мовы Гаўфава “Карліка Носа” альбо даць працу яшчэ аднаму “германісту” Яўгену Хвалею (пераклаў “Казку пра ўяўнага прынца” — у арыгінале *“Das Märchen vom falschen Prinzen”*)...

І яшчэ. Можна толькі здагадвацца, чаму выдавецтва “Юнацтва” замовіла новы пераклад з расейскае мовы гофманаўскага “Шчаўкунка” Віктару Гардзею, калі ў 1996 г. гэтае самае выдавецтва ў зборніку “Хлопчык-зорка” друкавала гэты ж твор у перакладзе, зробленым (таксама, відаць, з расейскага тэксту) Алесем Сачанкам. Напэўна, у “Юнацтва” шмат лішніх грошай...

Згаданыя пытаньні — з шэрагу этычных ды эканамічных. Ёсьць, аднак, тут рэчы, якія выглядаюць папросту як зьдзек з існага заканадаўства — у прыватнасьці, з Закону “Аб аўтарскім праве й сумежных правах”. Бальшыня зьмешчаных у зборніку “Прыгажуня ў сонным лесе” казак Шарля Пэро перадрукаваная тут са зборніка “Ш.Пэро. Чарадзейныя казкі”, які ў 1993 г. 70-тысячным (!) накладам выйшаў у выдавецтве БГАКЦ. Аўтар гэтых перакладаў — *Зьміцер* Колас. Зусім не *Якуб* Колас, як пазначана ў зьмесьце зборніка выдавецтва “Юнацтва” і як гэта ўсьлед за ім паўтарыў вядомы кнігалюб Віктар Мухін! Ул.Карызна й кампанія на “сваёй” кніжцы без усялякіх згрызотаў сумленьня ставяць: *© УП “Выдавецтва “Юнацтва”, пераклад. 2001* (прычым “капірайт” на “бліскучае” Карызнава ўкладаньне, безумоўна, таксама пазначаны!)

Між іншым, насуперак сьцьверджаньню сп.Мухіна, у кнізе няма перакладаў ня толькі Якуба Коласа, але й Кандрата Крапівы!

Усё сказанае вышэй (а пры жаданьні можна яшчэ сёе-тое дадаць) дазваляе ўпэўнена сьцьвердзіць: па-першае, абсалютна безадказныя й непрафэсійныя людзі, карыстаючыся сваёй набліжанасьцю да дзяржаўнага выдавецтва, дыскрэдытуюць беларускую культуру і парушаюць законы. Па-другое, рэдакцыя “НН” таксама часам занадта давяраецца сваім сталым аўтарам. Па-трэцяе, мала верыцца, што Зьмітру Коласу будуць кампэнсаваныя маральныя страты.

І апошняе. На беларускіх кніжках выхоўваецца ўжо трэцяе маё дзіця. Безумоўна, я магу чытаць сваёй пяцігадовай Алесі сякія-такія кніжкі, адразу перакладаючы і з расейскай, і зь іншых моваў. Шмат якія казкі са зборніка “Прыгажуня ў сонным лесе” давядзецца перакладаць з “тожа-беларускай” мовы Ўладзімера Карызны альбо Яўгена Хвалея. Гэткі, відаць, у беларусаў лёс...

**Лявон Баршчэўскі**

# Пісьменьніцкая мафія і крытычнае мысьленьне

**Апошнім часам у рэдакцыю “НН” прыходзяць рэцэнзіі або вострыя крытычныя, або разгромныя, добрых ня пішуць. Інтэлектуалы кола “Фрагмэнтаў”, якія летась рабілі прамоцыю “крытычнаму мысьленьню” ў спэцыяльным нумары свайго часопісу, маглі б цешыцца. Аднак ня цешацца.**

Усіх, хто дбае пра сапраўднае разьвіцьцё беларускае гуманістыкі, засмучае адсутнасьць дыялёгу на старонках большасьці беларускіх выданьняў. Плюралізм думак прадугледжвае ня толькі іхнае мірнае суіснаваньне, але і ўзаемадзеяньне, змаганьне, прынамсі, узаемаўдакладненьне, карацей, шырокую і абавязкова публічную дыскусію. Толькі праз дыскусію можна прыйсьці да згоды — у любым, ня толькі навуковым, але і палітычным, эканамічным, маральным пытаньні.

Ад той *“благости”*, якая пануе на старонках дзясятка ў той ці іншай ступені афіцыёзных выданьняў, робіцца сапраўды блага. Гэта летаргічны сон беларускае пэрыёдыкі і гуманістыкі. Крытыка ў іх даўно захавалася толькі ідэалягічная, у залежнасьці ад таго, на якіх пазыцыях — беларуска-нацыянальных ці расейска-нацыяналістычных — стаіць выданьне.

У прыватных выданьнях усё паіншаму. Аўтары ня проста выказваюць розныя погляды, але й нібы не заўважаюць адзін аднаго. Асобныя палемікі маюць звычайна калі не асабісты характар, дык асабісты падтэкст, а таму рэдка знаходзяць канцэптуальную афарбоўку ці асэнсаваньне. Працы супрацоўнікаў іншых “катэдраў” і “інстытутаў” крытыкуюцца ў незалежнай прэсе ўжо дзясятак гадоў, а выніку — нуль. Сядзяць дубы, абрастаючы тытуламі і прэміямі. Ад нездольнасьці хоць на каліва зьмяніць сытуацыю незалежная крытыка робіцца ўсё зьлейшаю. Нязвыкламу да гэткага старэйшаму пакаленьню здаецца, што маладыя перасьледуюць адну мэту — “выкрыць і набіць” (цытую адказ д-ра Конана на крытычны водгук Ю.Лаўрыка пра адрэдагаваны сп.Конанам зборнік “Беларускія рэлігійныя дзеячы ХХ ст.”). Маладыя ж хочуць іншага — выявіць і зьмяніць. А яно не зьмяняецца.

Прычына не ў прыватнасьцях, не ў “недапрацоўках” таго ці іншага аўтара ці рэдактара, “недаліках” таго ці іншага падыходу — у мэханізьме фактычнае дзяржаўнае манаполіі на арганізацыю творчай і навуковай дзейнасьці і фактычнай забароне на бюджэтную падтрымку незалежных праектаў.

Вось у гэтым нумары Лявон Баршчэўскі выкрывае бяздарнасьць новае дзіцячае кніжкі выдавецтва “Юнацтва” і мафіёзнасьць сыстэмы падрыхтоўкі гэтых кніг, а нястомны айцец Надсан зьвяртае ўвагу на бязглуздзіцу публікацыяў акадэмічнага аўтара ў “Весьцях НАН Беларусі” і часопісе “Беларусь”.

Па-нармальнаму, гэта мусіла б пацягнуць нейкія вывады. Дзяржава мусіла б задумацца пра разьмеркаваньне дзяржаўных датацый на выданьне дзіцячай літаратуры на адкрытых конкурсах, у якіх змогуць браць удзел прадстаўнікі як дзяржаўных, так і недзяржаўных выдавецтваў — як сп.Карызна са сваёй брацяй, так і сп.Колас, якога абакралі ды яшчэ й пераназвалі ў Якуба.


Разьбярэмся!

Высновы сп.Агіевіча мусілі б быць абмеркаваныя на паседжаньні ягонага акадэмічнага інстытуту. Часопіс “Беларусь” мусіў бы адмовіцца ад друкаваньня сумнеўнага аўтара і даць сабе працы элемэнтарна правяраць скандальныя публікацыі.

Ды кіньце дурное! У лепшым выпадку сябры сп.Карызны зь Дзяржаўнага камітэту па друку знойдуць за што ўляпіць “Нашай Ніве” чарговае папярэджаньне за “парушэньне Закону аб друку”. У горшым — проста зробяць выгляд, што нічога не было. А як інакш у гэтай сыстэме? Сёньня я табе дзяржпрэмію, заўтра ты мне прэмію “За духоўнае адраджэньне”. Свае людзі — парахуюцца.

Чаму самааднаўляецца гэтае кумаўство і групаўшчына? Дзеля чаго існуюць ардэнаносная Акадэмія і Саюз? Чаму ня дбаюць пра чысьціню шэрагаў? Дзеля таго і існуюць — каб трымаць манаполію ў абмен на палітычны канфармізм.

Сталінскія выдавецтвы, як і сталінскі Саюз пісьменьнікаў, як і сталінскую сыстэму Акадэміі навук, немагчыма рэфармаваць. Іх можна толькі пазбавіць дзяржаўнае манаполіі на кіраваньне сваімі сфэрамі жыцьця і долямі дзяржаўных рэсурсаў, паставіць у стан канкурэнцыі зь недзяржаўнымі выдавецтвамі, альтэрнатыўнымі творчымі суполкамі, незалежнымі дасьледчымі інстытуцыямі.

Тады і дыялёг адновіцца, і за рэпутацыю трымацьмуцца, і гуманістыка перастане выконваць ролю калгаснага загадчыка клюбу: *нада перахрысьціць Скарыну ў кантэксьце беларуска-расейскай інтэграцыі, трымайце доказы, што яго звалі Георгіем, нада перавадзіць Гофмана с рускага на беларускій, так как пасьледній не імеет аналагаў срэдзі цывілізованных языкоў, дзяржыце творы эўрапейскіх казачнікаў*. Інакш нічога ня будзе мяняцца, і крытычныя рэцэнзіі ў “НН”, “Беларускім Гістарычным Аглядзе” ці “ARCHE” будуць аўтарам ані ў знак. Крытыкуем, крытыкуем, а гуманістыка як спала, так і сьпіць.

Калі назваць рэчы сваімі імёнамі, гэтыя “перакладчыкі з расейскай” папросту раскрадаюць дзяржаўныя грошы — тыя капейкі, якія людзі праз падаткі пералічваюць на кнігавыданьне. Раскрадаюць, дзякуй Богу, пакрысе — вядома, якія там ганарары ў “Юнацтве”, сьлёзы, а не ганарары. Але цягнуць, колькі могуць. Дай ім болей, як у савецкі час, будуць браць болей і купляць “Волгі”. Саюз пісьменьнікаў, у які гэтыя перакладчыкі з расейскай уваходзяць, будзе маўчаць. Акадэмія навук, у якой русацяпы працуюць, пагатоў. Няма калі — за беларушчыну змагаюцца. У сваім разуменьні гэтага слова, вядома.

Тады як сапраўднае змаганьне за сапраўдную беларушчыну даўно ўжо вядуць ня тыя або ня там.

Хібы прыватных выданьняў, думаецца, вытворныя ад заганнасьці дзяржаўнай сыстэмы. Бо ж і мы ня маем канкурэнцыі, і мы паддаемся заразьлівай брыдкай этыкай працы “абы з рук”. Застаецца выбачацца, ізноў выбачацца. Нам, прынамсі, сорамна. Манапалістам жа — ані. Яны пэўныя, што захаваюць сваё становішча, нават калі ўлада зьменіцца.

**Рэдактар**

# Гісторыя на крыжы




**Петрашкевіч Алесь. Воля на крыжы: Гістарычныя п’есы. Менск: “Мастацкая літаратура”, 2000. — 271 с. Наклад 2000 ас. ISBN 985-02-0437-0**

Пасьля дзесяцігадовага перапынку пабачыла сьвет новая кніжка Алеся Петрашкевіча. Пад адной вокладкай сабраныя пяць гістарычных п’есаў: “Гора і слава”, “Меч Рагвалода”, “Напісанае застаецца”, “Прарок для Айчыны”, “Воля на крыжы”. На жаль, фантасмагорыя “Крыж сьвятой Эўфрасіньні” не ўвайшла ў кнігу. П’есы, сабраныя пад адной вокладкай, былі напісаныя ў розныя гады і нават розныя эпохі, таму нясуць на сабе адбітак часу стварэньня. Самая слабая зь іх — “Гора і слава”. У ёй ня столькі гора і славы, колькі сьмеху дый годзе. Вось адзін прыклад:

“Варажка: Я табе (князю Яраполку, сыну Сьвятаслава — **Leod**) ад яго *падарунак* прынёс. (Вымае з торбы *акаваную золатам чашу з чалавечага чэрапа*). Гэту чашу каган зрабіў з чэрапа князя Сьвятаслава...

Яраполк (у жаху): Не! Не! Не!

Варажка: *Шрам ад шаблі над левым брывом кожны памятае...*” (с. 21)

Я не спэцыяліст у анатоміі, але ж калі ўвесь чалавечы чэрап золатам акаваць, дык праз што віно піць? Аніякага шраму ад шаблі ніхто пабачыць і ня мог, бо на выраб такой экзатычнай і каштоўнай рэчы, як келіх з чэрапу ворага, браўся толькі *лобны трохкутнік*, які сымбалізаваў моц, розум, вайсковы талент, хітрасьць пераможанага ворага.

Петрашкевіч перапрацаваў традыцыйнае ўяўленьне пра Рагнеду. Аўтар надзяляе яе экстрасэнсорнымі здольнасьцямі — яна магла б скласьці канкурэнцыю самому Настрадамусу. Так, за 67 год да падзелу хрысьціянства на заходнюю і ўсходнюю плыні, Рагнеда агітуе Ўладзімера за адзіна правільную веру — “грэцкі закон”. Яна, воляю А.Петрашкевіча, “перадбачае”, што царкоўны раскол 1054 г. абавязкова адбудзецца. І таму Ўладзімер павінен пакінуць яе і ўзяць у жонкі — у якасьці авансу за хрост — бізантыйскую царэўну. Подзьвіг самаахвярнасьці, няйнакш.

І ў наступнай п’есе “Меч Рагвалода” аўтар піша: “Ці ж ня мелі мы хрысьціянку-кніжніцу полацкую Рагнеду Рагвалодаўну, якая, і гвалтоўна паланёная, здолела паўплываць на князя-паганца прыняць веру Хрыстову і Русь хрысьціць” (с. 99). Прыгожая, але казка. Калі прытрымлівацца лініі А.Петрашкевіча, Рагнеду трэба альбо кананізаваць, альбо разглядаць як актыўную інтрыганку на карысьць Бізантыйскай імпэрыі.

Незразумелы таксама аўтарскі падыход да спасылак на гістарычныя крыніцы. У п’есе “Гора і слава” цытаты з “Аповесьці мінулых гадоў” пададзеныя па-беларуску, у п’есе “Меч Рагвалода” — на царкоўнаславянскай...

Усе гэтыя хібы трэба падкарэк-

# Лялька нежывая

**Крук Я. Сымболіка беларускай народнай культуры. — Менск: Ураджай, 2000. — 350 с.; іл. ISBN 985-04-0396-9**

Кніга Я.Крука — гэта не рэалізацыя „новых падыходаў“, якія насамрэч зьяўляюцца ўжо традыцыйнымі для соцыякультурнай антрапалёгіі суседніх краінаў, а, хутчэй, эмацыйная і амбітная спроба вынайсьці свой уласны мэтадалягічны ровар. Ужо першыя словы дасьледчыка мусяць запэўніць чытача ва ўнівэрсальнасьці і бездакорнасьці прапанаванага тэксту: „Вы трымаеце ў руках незвычайную кнігу, якая, хочацца верыць..., праз пэўны час будзе ляжаць на стале ў кожнай сям'і“ (с.5). Аднак пераважная большасьць аўтарскіх высноваў сьведчыць, што Я.Крук так і застаўся закладнікам савецкіх мэтадаў навуковага дасьледаваньня, што выяўляецца ў ігнараваньні навукова-тэарэтычнага досьведу іншых дасьледчыкаў традыцыйнае культуры, такіх, як К.Леві-Строс, М.Эліядэ, А.Тапаркоў, В. Іваноў, В.Тапароў і інш.

Калі асноўным аргумэнтам слушнасьці зьяўляюцца спасылкі на асабісты архіў і ўласныя артыкулы ў газэтах і папулярных часопісах для хатніх гаспадыняў, гэткага кшталту дасьледаваньні прыводзяць урэшце да прафанацыі ўсёй ідэі досьледу. Так, з кнігі Я.Крука чытач ніколі не даведаецца, што ж разумее аўтар пад тэрмінам традыцыйная (народная) культура і чым яна розьніцца ад культуры індустрыйнага тыпу; як арганізуецца і перадаецца інфармацыя ў фальклёрных супольнасьцях; у чым спэцыфіка катэгорыяў „часу“ і „прасторы“. Дый нарэшце, як разумее аўтар паняткі „сымбаль“, „рытуал“ ды „магія“, да якіх бясконца апэлюе?

Аднак дапытлівы розум дасьледчыка, не засьмечаны размаітымі тэорыямі, багата адорвае ўважлівага чытача ўласнымі навуковымі дэфініцыямі ды адкрыцьцямі.

Так, паводле Я.Крука, „народны танец —гэта сюжэт увасобленай у рухах казкі“ (с.8); магія — „прыхаваная тайная спружына рытуальнай практыкі беларусаў“ (с.41), а печ — „форма прыручэньня агню“ (с.300). Такія „фармулёўкі“ прыдаліся б хіба для дзіцячай кніжкі. Курганы, на думку аўтара, — месца пахаваньня толькі найбольш знакамітых продкаў (с.286). Астатніх аж да XIV ст. хавалі ці то пад парогам хаты, ці ў склепе, „у якім сёньня хаваюць бульбу, буракі, квашаніну“ (с.116, 301). На чым грунтуюцца такія „адкрыцьці“, так і застаецца няясным. Як сьцьвярджае аўтар, першаснай формай пахавальнага абраду была інгумацыя — пахаваньне ў зямлю, а не трупаспаленьне, як даводзяць археолягі. Я.Крук прыводзіць “неабвержныя” доказы: беларусы на сьвятах веснавога і летняга цыклаў рэшткі рытуальнай стравы закопвалі ў зямлю (с.272). Факты такія сапраўды ёсьць, але інтэрпрэтацыя іх — цалкам на сумленьні аўтара. Можна даведацца і пра тое, што цяжарная жанчына валодае „шаманска-магічнымі“ здольнасьцямі (на жаль, аўтар не прыводзіць палявых апісаньняў камланьняў цяжарных беларускіх кабет; напэўна, гэтыя дакумэнты захоўваюцца ў яго асабістым архіве), а зачацьце дзяцей у ноч зь серады на чацьвер ды шчэ наданьне ім „двухполых“ імёнаў прыводзіць да зьяўленьня транссэксуалаў і гермафрадытаў (с.227). Гэтыя тэзы, пералік якіх заняў бы колькі старонак, зьяўляюцца прамежкавымі і падводзяць чытача да „генэральных“ высноваў, якія раскрываюць сутнасьць народнай культуры: „...асноўная рыса беларускай народнай культуры... — узаемадапамога, узаемападтрымка, згуртаванасьць, талочнасьць“ (с.206).

Раз-пораз аўтар, каб падкрэсьліць ня толькі папулярны, але й „навуковы“ характар дасьледаваньня, дэманструе ці ня ўсю вядомую яму высокапрафэсійную лексыку: „Сярод найбольш значных архетыпаў, міталягем, культуралягем, хранатопаў, рытуалу форм беларускай народнай культуры можна вылучыць васьміканцовую зорку, ромб, крыжы розных выяў, дрэва сусьвету, пантэон язычніцкіх багоў (?), хтанічны (падземны) сьвет, вясельны каравай...“ (с.52—53).

Адной з праяваў „савецкасьці“ (ці папросту нядобрасумленнасьці) дасьледаваньня зьяўляецца адвольнае абыходжаньне зь першакрыніцамі, крайняя неахайнасьць у іх цытаваньні. Факты, зафіксаваныя этнографамі XIX—пачатку XX ст., збольшага падаюцца без усялякіх спасылак на крыніцы, то бок прысабечваюцца.

Я.Крук настойліва навязвае чытачу свае перакананьні, эмацыйныя перажываньні і парады. Немагчыма зразумець, дзе ў тэксце сапраўды этнаграфічныя факты, а дзе — адвольныя аўтарскія фантазіі. Навукова неэтычна выглядае і навязваньне ўласных рэлігійных схільнасьцяў („наша агульная праматуля — Багародзіца“, „Храм ачышчае душу кожнага з нас і сілкуе яе энэргіяй Космасу, сфакусаванай у абразах Багародзіцы, Ісуса Хрыста...“).

Крытыкуючы „няправільныя“ паводзіны сучасьнікаў, аўтар міжволі выяўляе свой маргінальны статус у дачыненьні як да гарадзкой, так і да традыцыйнай культуры: шмат чаго не прымае ў першай і шмат чаго не разумее ў другой. „...Не вытрымлівае ніякай крытыкі сучасны варыянт упрыгожваньня машыны маладых лялькай. Яна ж нежывая! Прынцып рытуальнага мадэляваньня паводзін „падобнае выклікае падобнае“ прадказвае... сьмерць дзіцяці ў гэтай сям'і“ (с.183). Кіруючыся такой лёгікай, можна прыйсьці да высновы, што выява мужчыны зь вялікім эрэгаваным чэлесам (фармальна нежывая), якая яшчэ на пачатку XX ст. выпякалася ў Падзьвіньні на вясельным каравай, мусіла б прывесьці да асабістай трагедыі маладога... Сымбаль так і застаецца для аўтара „рэччу ў сабе“.

Спрабуючы ахапіць сваім „аналізам“ увесь Космас беларускай традыцыйнай культуры, аўтар, відаць, зразумеў непад'ёмнасьць гэтай задачы. І калі развагам пра „Чалавека і яго лёс“ адведзена 130 старонак, разьдзелу „Чалавек і яго род“ — каля 100 старонак, дык перадапошняму („Чалавек і Сьвет“) і апошняму („Чалавек і Сусьвет) адпаведна — 41 і 11 старонак. Аўтар „здарожыўся“, таму ў падразьдзеле „Сымболіка дрэваў“ згадваецца толькі дуб, бяроза і асіна, у „Сымболіцы беларускага жытла“ — адно покуць, парог і печ. У падразьдзеле з гучнай назвай „Гаспадарчая дзейнасьць чалавека: паміж быцьцём і мітам“ размова ідзе толькі пра сьвінагадоўлю ды ўтрыманьне кароў. Вось вам і ўвесь Космас!

Перавага „сьвінячай тэмы“ акрэсьлівае чытацкую аўдыторыю, на якую разьлічвае Я.Крук: „...Нашы чытачы найперш цікавяцца асаблівасьцямі народнага вопыту сьвінагадоўлі“ (с.313). У апошніх падразьдзелах „стомлены“ аўтар ужо не абцяжарвае сябе ні мудрагелістымі высновамі, ні цытаваньнем, папросту зьвяртаючы чытачоў да адпаведных разьдзелаў у зборніках прыкметаў і павер'яў (укладальнік У.Васілевіч).

Паколькі на пачатку працы дасьледчык так і ня вызначыў канкрэтных задачаў ды мэтадаў іх вырашэньня, дык заканамерна выглядае і адсутнасьць у заключэньні ўцямных высноваў, якія хоць нейкім чынам стасаваліся б даназвы кнігі. Нягледзячы на тое, што прафэсійны ўзровень аўтара так і не дазволіў яму ўзьняцца да вырашэньня пазначаных праблемаў, праца ягоная мае каштоўнасьць і значэньне ў станаўленьні соцыякультурнай антрапалёгіі ў Беларусі, як мае значэньне любы “першы блін сабаку” — зарука ўдалага печыва ў далейшым.

**Васіль Брыкун**

# Трохкутнік ворагаў

**Горский А.А. Москва и Орда. — М.: Наука, 2000. — 214 с. ISBN 5-02-010202-4**

Дасёньня не было ніводнай адмысловай працы, прысьвечанай адносінам Масковіі з Залатой Ардой. Гісторыкі збольшага абмяжоўваліся выказваньнямі наконт таго, добра ці дрэнна ўплывала Арда на Маскву (ніколі — наадварот), але не знайшлося нікога, хто б сабраў усе навуковыя факты і абвергнуў міты.

Першым зрабіў гэта маскоўскі навуковец А.Горскі — ягоная кніга *“Москва и Орда”* дае адказы на частку пытаньняў. Як вынікае з кнігі, ува Ўсходняй Эўропе ў тыя часы былі тры магутныя ворагі — Арда, Масква, Літва, — якія імкнуліся дыктаваць сваю волю суседзям. Такім чынам, пры вывучэньні маскоўска-ардынскіх дачыненьняў ніяк не абмінуць Вялікага Княства Літоўскага.

Так, у 1331 г. Гедымін насуперак Маскве пасадзіў княжыць у Пскове выгнанага цьвярскога князя Аляксандра Міхайлавіча. Дарэчы, гэта ці ня першы канфлікт паміж ВКЛ і Масквой (сёлета — 670-я гадавіна). 1338-м датуецца першы трохбаковы ўзброены канфлікт паміж Ардой з Масквой і ВКЛ (з-за Смаленску). Ужо як саюзьнікі Літва і Арда выступілі ў 1348 г., калі Альгерд прасіў у хана дапамогі ці то супраць Польшчы і Нямецкага Ордэну, ці то супраць Масквы. У 1350-х ВКЛ і Арда то варагавалі, то рабіліся хаўрусьнікамі. У 1368—1372 г. Альгерд з падтрымкай Арды тры разы падыходзіў да Масквы. У Кулікоўскай бітве 1380 г. Арду падтрымаў новы вялікі князь літоўскі Ягайла, што праўда, недастаткова энэргічна. Але гэтага хапіла, каб надоўга сапсаваць адносіны з Масквой.

І тут адгортваецца бадай самая загадкавая старонка гісторыі трохкутніка Літва-Масква-Арда. Хан Тахтамыш, помсьцячы за паразу на Куліковым полі, у 1382 г. спаліў Маскву. Дзьмітры Данскі яшчэ напярэдадні пакінуў сталіцу. Гераінную абарону Масквы ўзначаліў нейкі Асьцей, унук Альгерда. Горскі мяркуе, што ён быў сынам Дзьмітрыя Альгердавіча й вызначыўся на Куліковым полі на баку Масквы. Існавала таксама думка, што Асьцей — унук Андрэя Альгердавіча, полацкага князя, што таксама ўдзельнічаў у Кулікоўскай бітве на баку Масквы. Літоўскім крыніцам Асьцей зусім невядомы.

Князь-ліцьвін ратаваў Маскву ад мусульманскай навалы! Сюжэт варты палітызаванага літаратара. Колькі год таму, калі інтэграцыя з Расеяй толькі пачыналася, часопіс “Беларусь” (№ 2–3, 1996) зьмясьціў п'есу Івана Чыгрынава “Асьцей — Альгердаў унук”. Але гэта мінула незаўважаным, бо ў летапісах князь названы літоўскім, а інтымнае сяброўства зь Літоўскай Рэспублікай у пляны інтэгратараў не ўваходзіць.




Княства Літоўскае імкнулася актыўна ўзьдзейнічаць на Маскву і Арду — саюзьнікаў і ворагаў. Чытач знойдзе ў кнізе яшчэ нямала зьвестак пра гэта (бітва Вітаўта з татарамі на Ворскле (1399 г.), паход татараў на маскоўскія землі ў 1408 г., іх варагаваньне з ВКЛ у 1410-х. Вельмі важным быў паход хана Ахмата на Маскву ў 1472 г., сплянаваны вялікім князем Казімерам Ягайлавічам. Атрымаўся ён вельмі няўдалым. Ягоны вынік — поўная фактычная незалежнасьць Масквы ад Арды.

Дасьледаваньне А.Горскага патрабуе, каб нешта падобнае зьявілася і пра дачыненьні Арды зь Вялікім Княствам Літоўскім. Даўно трэба прааналізаваць нашыя адносіны ў прасторы і часе і высьветліць, кім была для нас Арда — геапалітычным хаўрусьнікам ці ворагам.

**Валеры Пазьнякоў**

таваць, бо чытаць разам бездакорную “Волю на крыжы” і ляпсусы дзьвюх згаданых п'есаў немагчыма. Агульнае ж уражаньне ад кніжкі добрае. Яна нават дазваляе сьцьвярджаць, што сярод беларусаў ёсьць *сапраўдны драматург.* Лепшыя п'есы Петрашкевіча (“Воля на крыжы”, “Крыж сьвятой Эўфрасіньні”) — гатовыя кінасцэнары. Толькі ці ёсьць у Беларусі той рэжысэр, тыя акторы і вялікія грошы, каб увасобіць думкі аўтара? Каб на тэлеэкране нам дэманстравалі ня танныя падробкі, а сапраўды высокамастацкія стужкі? Каб чэргі былі ня толькі на “Агнём і мячом” Ежы Гофмана, але й на пяцісэрыйную гістарычную стужку па творах Алеся Петрашкевіча. Адно толькі прашу: не рабеце “як заўсёды” (кшталту кінаварыянту “Чорнага замку Альшанскага”), бо хочацца, вядома ж, як лепш...

**Leod**




*Абнаўленьні “Беларускай палічкі” за апошні тыдзень*

**Новыя тэксты:**

– Жорж Сімэнон. Дзяўчына і бясхвостыя парсючкі (аповесьць); Чалавек на лаўцы (аповесьць); Порт у тумане (раман)
– Андэрсан. Голы кароль, Сьнежная каралева, Брыдкае качаня і іншыя казкі
– Новыя кнігі ў Старым Запавеце
– Аўген Калубовіч. “Айцы” БССР і іхны лёс
– Прадмова і Апавяданні, нарысы // Эліза Ажэшка. Выбраныя творы
– Уладзімер Глыбінны. На Сьвятой Зямлі
– Павал Урбан. Пра нацыянальны характар Вялікага Княства Літоўскага й гістарычны тэрмін “Літва”
– Сымон Брага. Геаграфічная лякалізацыя жыцьцяпісу доктара Скарыны

Пабачыла сьвет кніга
“Быць (або ня быць) сярэднеэўрапейцам
СУЧАСНАЕ ПОЛЬСКАЕ МЫСЬЛЕНЬНЕ”
500 старонак добрага друку, поўнакаляровая вокладка.
Пытайцеся ў кнігарні “Акадэмкніга”, а таксама ў БНФ і ТБМ.
Па даведкі зьвяртацца на тэлефон 257 48 69.
Энцыкляпэдыкс/ARCHE

**Міхась Раманюк**
**БЕЛАРУСКІЯ НАРОДНЫЯ КРЫЖЫ**
Міхась Раманюк

БЕЛАРУСКІЯ НАРОДНЫЯ КРЫЖЫ
**Альбом**
**Пытайцеся ў кнігарні “Акадэмкніга” або праз тэл. (017) 213-32-32**

# Міт, якому не даюць памерці

## *Яшчэ пра імя Скарыны*

У 1996 г. выйшаў зборнік матар'ялаў канфэрэнцыі "Полацак: карані нашага радаводу", што адбылася ў Полацку 5—6 верасьня 1995 г. У зборніку матар'ялаў зьвяртае на сябе ўвагу даклад Г.Галенчанкі "Канец застарэлага міту: новы дакумант пра Скарыну" (с.72-77) з фатакопіяй таго дакуманту. Тэкст дакладу, але ўжо без фатакопіі, быў перадрукаваны ў бюлетэні "Кантакты і дыялогі" (№9, 1996). Новы дакумант — знойдзеная ў актавых кнігах Познані невядомая раней копія каралеўскага прывілею ад 25 лістапада 1532 г., дадзенага Скарыну. Прывілей гарантаваў яму каралеўскую апеку і абарону ад усіх замахаў на ягоную свабоду і маёмасьць.

Да гэтага часу дасьледчыкі ведалі іншую копію згаданага дакуманту з Кароннай мэтрыкі (так зваліся кнігі, куды упісваліся тэксты каралеўскіх грамат і прывілеяў). У гэтых копіях, у адрозьненьне ад арыгіналу, каралеўскія тытулы і першы параграф, якія былі аднолькавыя ўва ўсіх дакумантах, пазначаныя толькі першымі словамі. Нярэдка сустракаюцца там памылкі і недакладнасьці, зробленыя перапісчыкамі. Таму, а таксама зь перасьцярогі, уладальнік дакуманту звычайна прыносіў яго ў мясцовы гарадзкі ці земскі ўрад і прасіў запісаць у актавыя кнігі. Гэта рабілася ў прысутнасьці ўладальніка, каб той мог спраўдзіць дакладнасьць запісу. Познаньская копія Скарынавага прывілею — якраз такі запіс у гарадзкіх (бурмістраўскіх) кнігах гэтага места.

Тэкст копіі з Каронная мэтрыкі выдаў у Вільні ў 1588 г. М.Круповіч у сваім *"Собрании государственных и частных актов"*. Яна цікавая тым, што гэта адзіны вядомы дакумант, у якім побач з імем Скарыны "Францішак" стаіць другое імя, "Георгі". У 1925 г. польскі гісторык Генрык Лаўмяньскі выказаў думку, што *"Georgii"* — памылка канцылярыста, і трэба чытаць *"egregii"* (шаноўнага). Гэты вучоны мае вялікі досьвед у чытаньні старых лацінскіх дакумантаў, таму ягоная здагадка вартая таго, каб прыняць яе на веру. На жаль, у Беларусі з ідэялягічных меркаваньняў доўгі час яе не прызнавалі. Дый цяпер яшчэ ня ўсе пагаджаюцца з Лаўмяньскім.

Ніжэй падаюцца паралельныя тэксты пачатку і канца дзьвюх копіяў скарынаўскага дакуманту. З уступу да Познаньскай вэрсіі відаць, што запіс быў зроблены ў 1532 г. "у нядзелю наступную пасьля сьвята сьв.Люцыі" — што, паводле зьлічэньня аўтара гэтых радкоў, было 14 сьнежня, на просьбу самога Францішка Скарыны, які "прынёс вызначны ліст *(scriptum significativum)* зь віслаю пячацьцю Я(го) К(аралеўскай) М(іласьці) і прасіў спадара бурмістра загадаць, каб ён быў занесены да актавых кніг".

Ужо пры першым знаёмстве з Познаньскай копіяй высьвятляецца, што меркаваньне Лаўмяньскага адносна імя "Георгі" ў "мэтрычнай" копіі было слушным і што



сапраўды ў арыгінальным дакуманце было напісана *"egregii"*, а не *"Georgii"*.

Ёсьць і іншыя адрозьненьні між дзьвюма вэрсіямі. Так, у загалоўку "мэтрычнай" копіі замест *"Litterae"* стаіць *"Littere"*, і нават прозьвішча Скарыны напісана як *"Skorznia"*. Аўтар гэтых радкоў заўсёды адчуваў, што ў "мэтрычнай" вэрсіі нечага не стае між словамі *"doctrinam"* і *"in arte"*. У Познаньскай вэрсіі злучнік *"et"* робіць усё ясным. Больш адрозьненьняў можна бачыць у апошнім сказе.

Знаходка Галенчанкі зьяўляецца паважным укладам у справу вывучэньня спадчыны Скарыны, бо ўдакладняе важную дэталь у жыцьцяпісе першадрукара і раз назаўсёды кладзе канец бясплодным спэкуляцыям адносна ягонага імя. Таму дзіўна, што апрача вышэйзгаданых выданьняў зь невялікім накладам, у ніякім афіцыйным навуковым выданьні не было нават згадкі пра гэтую знаходку. Затое, пачынаючы ад 1997 г., у розных часопісах, як папулярных, так і "акадэмічных", пачалі зьяўляцца адзін за адным артыкулы Ўладзімера Агіевіча, старэйшага навуковага супрацоўніка Інстытуту філязофіі НАН Беларусі, у якіх ён у даволі бесцырымонны спосаб даводзіць, што "Георгі" — хроснае імя Скарыны. Два ягоныя артыкулы зьявіліся ў часопісе "Беларусь", два ў "Весьцях НАН Беларусі". У 1999 г. пад шыльдаю НАН Беларусі выйшла ягоная кніга "Сымболіка гравюры Скарыны", якая атрымала высокую ацэнку двух "членаў-карэспандэнтаў". Аўтар пазнаходзіў цэлы шэраг "доказаў" — філялягічных, гістарычных і нават астранамічных — у падтрымку сваёй канцэпцыі. Ці гэтыя доказы пераканалі каго-небудзь, апрача яго самога, гэта іншая справа. Амаль нідзе няма згадкі пра Познаньскі дакумант.

Кажам "амаль", бо, апрача часопісаў, Агіевіч друкаваўся і ў газэце Акадэміі навук "Веды". У артыкуле "Ідэалы і сымбалі беларускага друкаваньня" ("Веды", №6, 1999) ён нападае на Галенчанку ў даволі агрэсіўны спосаб: "Чаму б Г.Галенчанку не растлумачыць, зь якой нагоды трэба верыць аднаму капісту (познаньскаму — **А.Н.**) ды ня верыць другому? Замест асьвятленьня пытаньня прыводзіцца здагадка, нібыта над пазнанскім пісарам стаяў Скарына і вадзіў яго рукою, патрабуючы не ўказваць свайго хроснага імя".

Калі б старэйшы супрацоўнік Інстытуту філязофіі НАН Беларусі ведаў лацінскую мову, дык мог бы пераканацца, што Скарына ў Познані не вадзіў рукою пісара, але быў прысутны, калі той запісваў ягоны дакумант у актавыя кнігі, і мог спраўдзіць дакладнасьць запісу.

У 2000 г. у Менску выйшаў першы нумар часопісу *"Святая Русь"* з падзагалоўкам: *"Журнал для тех, кто помнит свое отечество"*. Тытул і мова часопісу самі гавораць пра ягоны ідэалягічны кірунак. Ня дзіва, што рэдактар знайшоў блізкім па духу артыкул Агіевіча *"Инкогнито Скорины"*, у якім аўтар паўтарае ўсе свае старыя казкі і заяўляе катэгарычна: *"Не пора ли нам покончить с уплатой дани идеологически инспирированной версии польского исследователя Х.Ловмяньского, который в 1925 г. "лишил" Скорину имени Георгий пад предлогом того, что некогда королевский писарь будто бы ошибся в написании слова egregii и поставил на его место четко и несомненно слово Georgii?"*

Скіроўваючы ўсю ўвагу чытача на Лаўмяньскага (чаго яшчэ можна чакаць ад *"польского ученого"?)*, аўтар ні словам ня згадвае пра Познаньскі дакумант, знойдзены Галенчанкам. Агіевіч любіць абвінавачваць у "інтэлектуальным падлогу" тых, каго ён зьняважліва называе "афіцыйнымі захавальнікамі спадчыны Скарыны". Цікава, як тады назваць сьвядомае замоўчваньне нявыгаднай для сябе праўды? Мусіць, таксама падлогам, толькі не інтэлектуальным. Іншымі словамі, гэта звычайнае ашуканства.

У артыкуле дарэмна шукаць такія словы, як "Беларусь", "беларускі", хіба толькі ў назвах *"Белорусская энциклопедия"* ці *"Министерство образования Республики Беларусь"*. Відаць, гэтыя словы прыкрыя для гаспадароў часопісу. І ці сумленна гэта, каб нехта, хто лічыць сябе беларусам, мог напісаць: *"Своими переводами Скорина сформировал литературный язык "братии своей Руси"*, не сказаўшы, які ж гэта быў *"язык"*? Такім чынам, Скарына ў артыкуле Агіевіча сапраўды *"инкогнито"*...

Як кажуць, "гарбатага і магіла ня выправіць". Агіевічаў гэтага сьвету нішто і ніхто не пераканае. Тым ня менш, мы б раілі сп.Агіевічу вярнуцца да сваіх раньніх зацікаўленьняў тыпу "Эвалюцыя філязофскіх поглядаў Луначарскага". Там, прынамсі, у яго ня будзе канкурэнтаў. Дый лацінскай мовы ведаць ня трэба...

Усё гэта было б вельмі сьмешна, каб не было так сумна. Сумна і крыўдна за беларускую навуку.

**а.Аляксандар Надсан**

***Заўвага.** У ніжэй прыведзеных тэкстах розначытаньні надрукаваныя тлустым шрыфтам, напр., **Georgii** — **egregii**. Калі нейкае слова ў адной вэрсіі адсутнічае, то ягоная адсутнасьць пазначаная дужкамі, напр., ( ) — **et**.*

**Прывілейная каралеўская грамата, дадзеная доктару Францішку Скарыну 25 лістапада 1532 году**



**КОПІЯ З КАРОННАЙ МЭТРЫКІ**

**LITTERE PRO DOCTORE FRANCISCO SKORZNIA DE POLOCZKO**

Sigismundus **etc.**

Significamus **etc.**

Quia nos annuentes supplicationibus quorundam consiliariorum nostrorum ac commendatam habentes virtutem et doctrinam ( ) in arte medica non vulgarem peritiam et dexteritatem **Georgii** Francisci Skorina de Poloczko artium et medicinae doctoris, eumque singulari gratia nastra propterea prosequi volentes, illi hanc immunitatem et praerogativam dandam et concedendam duximus damusque et conferimus tenore praesentium sic videlicet ut nemo tam in Regno quam in Magno Ducatu nostro Lithuaniae et terris Prussiae Samogithiaeque allisque dominiis nostris in quaecumque causa magna vel parva illum citandi, ad iudicium trahendi et iudicandi potestatem habet praeter nos ipsos successoresque nostros.

...

Datum Cracoviae feria secunda fersti sanctae **Katherinae** virgins ( ) anno Domini millesimo quingentesimo **tricesimo** secundo Regni **vero** nostri ( ) **XXVI.**

**ПОЗНАНЬСКАЯ КОПІЯ**

**PRAGMATICA SANCTIO DOCTORIS FRANCISCI SKORINA A REGE DATA**

Anno Domini 1532 dominica proxima post festum S. Luciae **egregius** Franciscus Skorina medicinae doctor obtulit infra scriptum significativum sub sigillo appenso M.S.R. petivit dominum proconsulem causare libro actorum comitari. Quid obtinuit tenore praescripto mediante ut sequitur.

Sigismundus **Dei gratia Rex Poloniae Magnus dux Lituaniae Russiae Prussiae Masoviae etc dominus et heres.**

Significamus **tenore presentium quibus expedit universis.**

Quia nos annuentes supplicationibus quorundam consiliariorum nostrorum ac commendatam habentes virtutem et doctrinam, **et** in arte midica non vulgarem peritiam et dexteritatem **egregii** Francisci Skorina de Poloczko artium et medicinae doctoris, eumque singulari gratia nostra propterea prosequi volentes, illi hanc immunitatem et praerogativam dandam et concedendam duximus damusque et conferimus tenore praesentium sic videlicet ut nemo tam in Regno quam in Magno Ducatu nostro Lithuaniae et terris Prussiae Samogithiaeque aliisque dominiis nostris in quaecumque causa magna vel parva illum citandi, ad iudicium trahendi et iudicandi potestatem habet praeter nos ipsos successoresque nostros.

...

Datum Cracoviae feria secunda festi sanctae **Catherinae** virginis **et martyris** anno Domini millesimo quingentesimo **trigesimo** secundo Regni ( ) nostri **anno vigesimo sexto.**

Фатакопія першай старонкі арыгінальнага запісу: *Францыск Скарына і яго час*. Энцыкляпэдычны даведнік. БелСЭ, Менск, 1988, с.575. Поўны тэкст: "Скарынавы кракаўскія прывілейныя граматы 1532 году". Запісы. Кніга 5. Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва, Мюнхэн 1970, с.118—119.

Фатакопія арыгінальнага запісу: Г.Галенчанка. "Канец застарэлага міту: новы дакумант пра Скарыну". У кн.: Полацак: карані нашага радаводу. Полацак, 1996, с.76—77.

ARCHE

СКАРЫНА

АНАЛІТЫКА ЭСЭІСТЫКА КРЫТЫКА

**Выйшаў новы нумар аналітычна-крытычнага агляду часопісу "ARCHE". Сёлета ў "Скарыну" — 104 старонкі, а ня 80, як летась.**

**У нумары:**

- **Юрась Лаўрык рэцэнзуе кнігу Алены Яскевіч "Абраньне вечнасьці". Мінулая рэцэнзія сп.Лаўрыка (на кнігу "Беларускія рэлігійныя дзеячы" Ю.Гарбінскага) выклікала палеміку ў друку. Гэтая — яшчэ вастрэйшая.**
- **Валерка Булгакаў аналізуе ідэалёгію лукашызму. Грунт для аналізу — рупар рэжыму, часопіс "Беларуская Думка".**
- **Новае эсэ Вінцэся Мудрова "Пошукі радзімы".**
- **З гэтага нумару "Скарына" пачынае штонумар друкаваць вершы. У нумары — "Юрлівыя санэты" Юрася Пацюпы.**
- **Аналітыка Зьбігнева Бжазінскага аб пэрспэктывах эўрапейска-амэрыканскіх стасункаў.**
- **Эсэ Карла Шлёгеля пра Бэрлін, Дэна Якабсана пра Літву і Юр'я Андруховіча пра Галічыну.**

Пытайцеся ў кнігарнях "Белкнігі", кіёсках "Белсаюздруку", у распаўсюднікаў на сядзібах БНФ, ТБМ, на кірмашы ў ДК Трактарнага заводу і ў "казе" "Менск".

**Чаму расейская культурная прастора адмежаваная ад сусьветнай шчыльнымі бар'ерамі?**



# Ларын і Хварастоўскія

У велікодную нядзелю ў Філярмоніі зазьзяла сапраўдная зорка. Увесь сьвяточны вечар сьпяваў знакаміты тэнар, саліст нью-ёрскай *“Metropolitan Opera”* Сяргей Ларын. Аматары “са стажам” параўнаюць гэтую падзею хіба зь векапомным бэтховэнскім канцэртам Эміля Гілельса на зыходзе 70-х. Пазьней менчукам ужо не даводзілася спазнаць гэткае раскошы. Замежныя славутасьці сусьветнага маштабу больш любілі Вільню ды Талін, а нашая сталіца ў 80-я ператварылася ў перавалачны пункт для маскоўскіх пеюноў, у якіх былі ангажэмэнты на Захадзе, і для юных кандыдатаў у ляўрэаты. Галоўнай прынадай для слухачоў быў Сьвятаслаў Рыхтэр — стары і абяспамятнелы пасьля цяжкай хваробы, слухаць якога было суцэльнай пакутай.

Але пры канцы 90-х нават Рыхтэр лічыўся нядасягальным узорам дасканаласьці. Лукашэнкавая Беларусь пляскала ў далоні, вітаючы састарэлую й безгалосую Мантсэрат Кабальле, ушчэнт развалены *“Deep Purple”*, Уладзімера Сьпівакова з аркестрам, сьпевам сабраным з выпадковых музыкаў. Менчукі плацілі агромністыя грошы, каб пачуць другарадны барытон Зьмітра Хварастоўскага, якому расейцы стварылі імпэрскі імідж “найлепшага ў сьвеце”, або трэцярадную Любоў Казарноўскую.

Ня дзіва, што пасьля іх менскія аматары не пайшлі слухаць Ларына. Многіх адштурхнула й безгустоўная вулічная рэкляма: “Найлепшы тэнар свайго пакаленьня”, “Найлепшы тэнар XXI стагодзьдзя”... Хто ж гэтаму паверыць? У пэўным сэнсе, скепсыс — натуральная рэакцыя, якая найвыразьней сьведчыць пра душэўнае здароўе нашай публікі. “Гэтае прозьвішча мне незнаёмае, — разважае слухач. — Мо гэта новы Баскаў (зь білетамі за 50 і 120 тыс. рублёў), а мо й чарговая псэўдаславутасьць з Бальшога тэатру? Адкуль мне ведаць? Вось калі гэтага Ларына пакажуць па тэлевізары...”

І вось тут мы акурат трапляем у болевую кропку нашай культуры. Беларусы паталягічна прывязаныя да расейскага тэлебачаньня — скрозь мітатворчага ды прасякнутага інтарэсамі расейскага бізнэсу. Яно скажае рэальнасьць, даводзіць гледачам духоўную вышэйшасьць расейскай культуры і стварае хлусьлівае ўражаньне безупынных перамогаў і дасягненьняў. Зрэшты, некаторыя расейскія артысты дабіваюцца посьпеху на Захадзе. Прыкладам, барытон Аляксандар Анісімаў — цёзка галоўнага дырыжора Беларускай Опэры — сьпявае ў найлепшых тэатрах сьвету. Але на расейскім тэлебачаньні рэкламуюць не Анісімава і ня Ларына, а Хварастоўскага. І ў гэтым няма нічога дзіўнага. Запрасіўшы Анісімава альбо Ларына засьпяваць у Маскве, расейскі прадусэр мусіць заплаціць ім ганарар, належны зоркам сусьветнага ўзроўню. Ці не прасьцей разьдзьмуць непрыкметныя посьпехі звычайнага сьпевака, дадаць крышачку сэнсацыі... І атрымаць фальшывую “зорку”, якая здаволіцца найсьціплейшым ганарарам і астранамічнаю славаю ў межах аднае дзяржавы. А публіка будзе плаціць за квіткі вялізныя грошы. Важна, аднак, каб патэнцыйны пакупнік ня меў магчымасьці ацаніць сапраўдную вартасьць прапанаванага яму тавару — прынамсі, ня меў, з чым яго параўнаць. Вось чаму расейская культурная прастора адмежаваная ад сусьветнай шчыльнымі бар'ерамі.

У беларусаў сёньня ёсьць выбар: добраахвотна замкнуцца ў культурніцкім ізаляцыянізьме расейскага тэлебачаньня альбо ўсталяваць спадарожнікавую “талерачку” і пусьціцца ў самастойную віртуальную вандроўку, шукаючы культурных скарбаў па цэлым сьвеце. І зусім не абавязкова ведаць замежныя мовы, каб ацаніць прыгажосьць далёкіх гарадоў і краінаў, пабачыць шэдэўры жывапісу, паслухаць славутых музыкаў, пабыць на опэрных спэктаклях у *“Covent Garden”* ці ў *“La Scala”*...

Што ж тычыцца Ларына, дык ягоны твар мільгае на культурніцкіх тэлеканалах безумоўна часьцей, чым твар якой-небудзь Мантсэрат Кабальле. Ларын у “Барысе Гадунове”. Ларын у “Тосцы”. Ларын у вэрдзіеўскім “Дон Карлясе”... Ларын у Сан-Францыска. Ларын на Зальцбурскім велікодным фэстывалі. Ларын у эксклюзіўным канцэрце славутага дырыжора Кляўдыя Абада ў Бэрліне... Ну і, вядома ж, Ларын у “Турандот” — векапомнай пастаноўцы на тле старажытнага палацу кітайскіх імпэратараў, якая трансьлявалася з Пэкіна на ўвесь сьвет, за выключэньнем Беларусі ды Расеі. Там побач з Ларыным сьпявалі лепшыя вакалісты з розных краінаў. Спэктакль быў запісаны на дыскі і відэакасэты, якія разышліся шматмільённымі накладамі. “Няўжо мяне тут ня ведаюць?” — зьдзівіўся Ларын, убачыўшы напаўпустую залю Беларускай філярмоніі. Зразумела, яму — пры ягонай сусьветнай славе — было цяжка ўгэта паверыць.

“Але як артыст гэткага маштабу апынуўся ў Менску? — запытаецца чытач. — Хіба ж нашая Філярмонія ў стане заплаціць яму належны ганарар?” (Канцэртная стаўка Ларына складае 20 000 даляраў). Папросту здарыўся цуд. Мінулым летам мастацкі кіраўнік Беларускай філярмоніі Юры Гільдзюк наведаў Вільню, дзе адбываўся VI фэстываль імя сьв.Хрыстафора. Тут сп.Гільдзюк упершыню пачуў голас Ларына і літаральна аслупянеў ад ягонай прыгажосьці. Неўзабаве адбылося й асабістае знаёмства за куфлем піва. Аднак аніякія перамовы напэўна не далі б плёну, калі б сп.Гільдзюк не вучыўся ў Маскоўскай кансэрваторыі разам з Элеанорай Бекавай — акампаніятаркай славутага тэнара. Бекава — чачэнка з Казахстану — жыве цяпер у Лёндане і канцэртуе ў складзе сямейнага трыё (ейная сястра Альфія грае на віялянчэлі, Эльвіра — на скрыпцы). З Ларыным яна запісала некалькі кампакт-дыскаў. І менавіта яна ўпрасіла сьпевака выступіць у Менску амаль бясплатна.

Варта зазначыць, што ў Вільні ён таксама сьпяваў не дзеля грошай, а дзеля цалкам зразумелага сантымэнту. Пасьля няўдалых спробаў паступіць у сталічныя кансэрваторыі Ларын выправіўся ў Вільню да славутага тэнара Віргіліюса Нарэйкі, які выкладае ў Літоўскай кансэрваторыі. Нарэйка ацаніў ягоны талент на “выдатна”, а праз год даверыў яму дэбют у партыі Альфрэда (“Травіята”) у Віленскай опэры. Посьпех быў велізны. На той час Ларын ужо нядрэнна валодаў літоўскаю мовай... Віленцы хутка палюбілі новага тэнара. Аднак на гастролі ня бралі — мо акурат з тых самых прычынаў, зь якіх яму не знайшлося месца ў Маскоўскай ці Ленінградзкай кансэрваторыі. Ад гэтага чалавека заўжды патыхала вольнасьцю.

Акурат у тыя далёкія гады — пры канцы 80-х — мы з бацькам неяк цэлы тыдзень валэндаліся па Вільні і, вядома ж, завіталі ў Опэру. Давалі “Дон Карляса” на літоўскай мове. Спэктакль быў, мякка кажучы, ня з лепшых. Адзінае моцнае ўражаньне — тэнар з расейскім прозьвішчам, які сьпяваў дый паводзіў сябе на сцэне зусім ня так, як ягоныя партнэры. Была ў ім цудоўная ўпэўненасьць і свабода. Ува ўсім абліччы. У рухах. У голасе.

А неўзабаве надышла зусім іншая эпоха. У 1989—90 г. Ларын трапляе ў Браціслаўу і назаўжды зьвязвае свой лёс з гэтым утульным горадам, зь іншай маленькай эўрапейскай краінай. Пры гэтым ягоная артыстычная кар'ера разгортваецца зусім у іншай прасторы. У траўні 1990 г. у венскай *Staatsoper* захварэў выканаўца ролі Ленскага. Кіраўніцтва *Staatsoper* нейкім чынам даведалася пра Ларына і запрасіла яго на замену. Посьпех быў такі, што дырэктар тэатру ў той жа вечар прапанаваў яму сталы кантракт. Пасьля кар'ера Ларына ўвесь час ішла ўгору...

І вось ён на сцэне нашай філярмоніі. Сьпявае нават не ў палову — у чвэрць свайго магутнага голасу — і інача напэўна абваліліся б сьцены будынку. А ў выкананьні “Песень і танцаў сьмерці” Мусаргскага ўздымаецца да недасягальных вышыняў геніяльнасьці і трагізму. Нядзіва, што па сканчэньні канцэрту публіка не хацела адпускаць сьпевака.

**Юлія Андрэева**

## Аб усім патроху
# Генэрал Касмовіч



**23 красавіка — дзясятыя ўгодкі з дня сьмерці кіраўніка Беларускага Вызвольнага Фронту генэрала Дзімітрыя Касмовіча (1909—1991).**

Касмовіч — адзін з апошніх дзеячаў беларускай паваеннай эміграцыі, які актыўна й прафэсійна займаўся палітыкай: пашыраў на Захадзе інфармацыю пра Беларусь, узначальваў Замежны сэктар Беларускай Незалежніцкай Партыі, кіраваў Беларускім Вызвольным Фронтам, быў сябрам Беларускай Цэнтральнай Рады, выдаваў часопіс “Барацьба”.

Актыўны ўдзельнік беларускага студэнцкага руху ў міжваеннай Эўропе, увосень 39-га Касмовіч займаў уплывовую пасаду ў савецкай адміністрацыі Нясьвіжу. Ён быў абраны дэлегатам на “Народны сход Заходняй Беларусі” і сфатаграфаваўся побач са Сталіным. А ўжо ўлетку 1941-га кіраваў менскай паліцыяй... Разам са стрыечным братам Міхалам Вітушкам ён ствараў беларускія вайсковыя фармаваньні й падпольле БНП на Смаленшчыне й Браншчыне. А потым была эміграцыя.

Дзімітры Касмовіч застаўся жыць у Заходняй Нямеччыне, у Штутгарце. Доўгі час былі вялікія спадзяваньні на хуткае вызваленьне Беларусі. А калі яны не збыліся, Касмовіч працягваў актыўна дзейнічаць, верыў, што “прыйдзе той час, калі... падмуцца маладыя беларускія сілы і здабудуць Вольнасьць і Незалежнасьць Беларускай Дзяржаве”.

**Сяргей Ёрш**

# Лукашэнку — дом Цанавы

**Польскую амбасаду высяляюць зь вілы на вул.Румянцава (гэта на гары ля плошчы Перамогі).**

Беларускія ўлады адмовілі палякам працягнуць дамову аб арэндзе і прапанавалі вызваліць памяшканьне да 1 ліпеня. Польскае прадстаўніцтва месьціцца там яшчэ з БССРаўскіх часоў, тады яно было яшчэ на ўзроўні не амбасады, а толькі консульства. Другое — нямецкае — знаходзіцца цераз плот. Кажуць, што неўзабаве выселяць і яго. Улады, нібыта, маюць пабудаваць тут урадавы комплекс. Але скандалу, як з Драздамі, відаць, ня будзе — палякі ня хочуць галасу ў год выбараў.

За жаданьнем сымбалічна “пакараць” суседзяў-палякаў праглядаюцца геапалітычныя арыенціры сёньняшняй менскае ўлады.

Асабняк паўстаў пры канцы 40-х — спачатку там жыў сумнавядомы верхавод НКВД БССР Цанава. Будынак даўно ўжо цесны і знаходзіцца не ў найлепшым стане. А капітальнага рамонту палякі не рабілі, бо ня іхная ўласнасьць. Нікому ж во спатрэбіўся дом Цанавы.

**Сяргей Рак**

# Розная саломка

**У Берасьце прыехала перасоўная выстава народнай творчасьці супрацоўнікаў беларускіх мытняў, прымеркаваная да 10-годзьдзя мытнай службы Рэспублікі Беларусі.**

Усяго на выставе 245 экспанатаў, сярод якіх ёсьць і твор начальніка мытні «Заходні Буг» Вячаслава Асінцава — «Галава каня», выкананая гуашшу на кардоне. Сярод твораў супрацоўнікаў Берасьцейскай мытні нямала вышывак, разьбы па дрэве, вязаных рэчаў і вырабаў з саломкі. Дарэчы, днямі памежнікі Пінскага атраду, аглядаючы дызэль «Забалацьце—Берасьце», які ходзіць з Украіны, знайшлі пакет зь іншай – макавай – саломкай, вагой 660 грамаў. Гаспадар пакету ня выявілены. А ў Горадні памежнікі затрымалі трох грамадзянаў Беларусі, якія перавозілі 1300 г макавай саломкі.

**Паводле БелаПАН**

## Ліст у рэдакцыю
# Сьвята кнігі Зянона

**12 красавіка адбылася прэзэнтацыя кнігі Зянона Пазьняка "Глёрыя Патрыя", арганізаваная сябрамі КХП-БНФ**

Распачаў прэзэнтацыю дзіцячы хор, які выканаў песьню "Авэ Марыя" на словы Зянона Пазьняка (верш, дарэчы, завецца "Гучаньне анёльскага голасу"). Гэтая малітва заўсёды кранае душу, асабліва, калі яе сьпяваюць дзеці...

А потым вершы, цудоўныя вершы пра Родны край, прыгажосьць прыроды, пра любоў невымерную да роднага куточка, да маці, пра жаданьне заўсёды быць разам са сваёй Бацькаўшчынай. І ўсё гэта – з вуснаў маладых хлопцаў і дзяўчат, што надавала асабісты, кранальны сэнс дэклямаванаму.

Прафэсар, доктар філязофскіх навук Мікалай Крукоўскі рапавеў пра філязофскі сэнс паэзіі З.Пазьняка. Пазьняк – філёзаф, гэта зразумелі й адчулі ўсе.

Прыемна адзначыць, што вершы Зянона Пазьняка перакладзеныя на іншыя мовы. Папольску, у перакладзе Сэнюха, чыталі вершы Валеры Буйвал, па-арабску – аўтар перакладу сп.Хашэм.

Усё гэта напаўняла душу шчасьцем і гонарам за аўтара, якога нам падараваў лёс.

У праграме вечара былі і слайды фатаздымкаў з кнігі Зянона на вялікім экране. Слайды суправаджала музыка ў цудоўным выкананьні ляўрэата міжнародных конкурсаў Міхаіла Лявончыка.

Усе прысутныя былі зьядналыя любоўю да Радзімы. Гэта асабліва адчувалася ня толькі ў апладысмэнтах, але і ў тым, як усе напрыканцы прасьпявалі гімн "Магутны Божа". Кніга Зянона Пазьняка вельмі патрэбная нам, беларусам, якраз сёньня, каб яшчэ глыбей любіць нашу Беларусь і працаваць на яе шчасьце.

ЗЯНОН

Глёрыя Патрыя

**Вольга Кацянкова, Менск**

# Сон калектыўнага розуму



**Агульнанацыянальны праект "Сьніць прэзыдэнта разам"**

Сутнасьць: сьнім грамадою Аляксандра Лукашэнку ноччу з 2 на 3 траўня (запланаваная працягласьць супольнага сну ад 2-й да 3-й гадзіны ночы).

Мэта: дасягнуць яднаньня нацыі ў сьне, сынтэзаваць грамадзкі дух і, пры наяўнасьці адпаведных умоваў, стварыць першы нацыянальны калектар сну. (Разглядаецца магчымасьць імпульснай актывацыі архетыпаў з дапамогай згустку псыхічнай энэргетыкі.)

Умовы: прадугледжаныя сон "За" і сон "Супраць", але, каб пазьбегнуць неспадзяваных адхіленьняў, колькасьць палярных сноў павінна быць прыблізна аднолькавай.

Патрабаваньні: каб увайсьці ў адпаведную фазу сну, трэба набыць партрэт прэзыдэнта (пажадана каляровы) і за гадзіну да сну пільна яго разглядаць тры разы па 10 хвілінаў зь перапынкамі на 5 хвілінаў (калі адчуеш, што прэзыдэнцкія вусы пачынаюць варушыцца, сэанс можна спыніць).

Засынаць пажадана зь цёплым успамінам аб прэзыдэнту, напрыклад, уяўляючы, як ён гуляе ў хакей з народам. (Таму, хто пакутуе на бяссоньніцу, варта з заплюшчанымі вачыма падлічыць, як прэзыдэнт закідвае шайбу (да 100 разоў), дае адказы на пытаньні журналістаў (да 100 акрэдытаваных), бярэ ўдзел у выбарах на найвышэйшую пасаду (колькасьць укінутых бюлетэняў неабмежаваная).

Чаму варта праводзіць гэтую акцыю?

Сьніць прэзыдэнта — па сутнасьці, тое самае, што сьніць Радзіму такой, якой яна ёсьць. А сьніць Радзіму — гэта ўжо грамадзянскі абавязак.

Навошта ўсім разам запальваць зьнічкі ў вокнах ці выходзіць на шэсьце (наагул, натоўп — гэта заўсёды тлум і небясьпека). Спрабуйма аб'яднацца ў грамаду падчас сну. Тым больш, што ўдзел у гэтай акцыі не сапсуе вашае кар'еры.

Калектыўны сон — стыхія пакуль невядомая. Ня выключана, што ў выніку экспэрымэнту адкрыюцца новыя магчымасьці. Напрыклад, можна будзе перадаць скаргу асабіста прэзыдэнту альбо пагутарыць зь ім сам-насам. (Каб пазьбегнуць інцыдэнтаў, побач з прэзыдэнтам трэба сьніць двух-трох ахоўнікаў.)

Гэта будзе арыгінальны псыхіка-сацыяльны экспэрымэнт. Аўтары сноў, калі ласка, дасылайце свае ўражаньні на адрас існых рэдакцый "НН" (лісты пра чорныя і мярзотныя сны) і "*Советской Белоруссии*" (адпаведна, чыстыя і прыемныя).

Пэрспэктывы: такі сон — агульнанацыянальны сэанс духоўнага паяднаньня. Таму варта абмеркаваць пытаньне аб рэгулярным правядзеньні падобных мерапрыемстваў кожны месяц, у ноч з другога на трэцяе.

**P.S.** Заяўка на правядзеньне агульнанацыянальнай акцыі "Сьнім прэзыдэнта разам" пададзеная ініцыятыўнай групай у Менгарвыканкам (эпіцэнтрам сну будзе Менск) ноччу з 27 на 28 сакавіка.

На гэтым тыдні трэ будзе прысьніць адказ.

**Старшыня праекту сну:**
**сп.Сяржук Блізна**

## Прыватныя абвесткі



### акардэон

**Прадаю акардэон Weltmeister Consona.** Т. (Кобрынь): 2-50-87

### вітаньні

**Валодзька Валодзін!** Віншуем з народзінамі. Янка-абаранка, Яська, Натальля, Вэраніка, Ната, Тодар

**Віншую рэпартэра** БелаПАНу й самага кляснага перакладчыка на беларускую мову Аляксея Знаткевіча з Днём народзінаў

**Віншую тэвээлаўцаў** зь дзявятым "Калосьсем". А.А.

**Сержымонта Боль-Адхонскага** гратулюю з Днём узродзінаў а жычу напісаці калісь сваю галоўную кнігу! Гумбэрта Века

**Сяргею Балахонаў**, ты нас дастаў! Пара ажаніцца! А так — з Днём народзінаў! Усяго табе цікавага! Яравітаўцы

**Сяржук**, віншую цябе з Днём народзінаў. Жадаю здароўя, посьпехаў у літаратурнай дзейнасьці і, вядома, узаемнага каханьня. Наста

**Віншуем Сержука Балахонава** з Днём народзінаў! Жадаем творчых натхненьняў і шчасьця! Гомельскія талакоўцы і Дзёнік

**Сярожа!** Музыка Тваіх Сагаў гучыць у маім сэрцы штоаўторак. Юнэля

**Народнага настаўніка**, файнага літаратуразнаўцу, ганаровага будаўніка Скурата С.К. віншуем з 34. Міцькі

**Ясечка!** Прывітаньне! Віншую зь ліцэйскай вясной — першай для мяне, апошняй для цябе! Янка

**Лёшка-Шыпшынка!** Твае вусны-пялёстачкі такія пяшчотныя! Я мару пра твае пацалункі! Тая, што кахае

**Лёшка-зорачка!** Не хавайся за хмаркамі! Пакажыся! Я захапляюся табой, Зорачка! Таксама Zorro

**Віншуем наша сонейка Касю** з Народзінамі. Зычым яскравага й бясконцага зьзяньня. Алесь і Марыйка

**Тацянка**, я цябе моцна-моцна кахаю! Навошта ты губляеш шчасьце, зьдзекуючыся зь сябе? Каханец

**Вэранічка-зьнічка** ў срэбных чаравічках! Не напішаш вершаў — нізка нос павешу! Янка-хуліганка

**Захапляюся** табою, Эліна! Мара

**Не забывай** мяне, Віце. Мара

**Задзіночаньне** Беларускіх Студэнтаў шчыра дзякуе тым добрым людзям, што падпісалі нас на беларускія выданьні. Зэбээсаўцы

**Коханаўская моладзевая** арганізацыя "КРАМ" віншуе Церскую Кацярыну з удалым выступам і заваёвай 3-га месца на рэспубліканскай алімпіядзе па беларускай мове. Так трымаць! Мы ганарымся табой!

**Ільлю Глыбоўскага віншуем** з Днём народзінаў. Людзі ў панамках

**Агента 4-х выведак** Глыбоўскага І. віншуе з Днём народзінаў мафіёзная багема.

**Niachaj Imia Hospada** budzie prasłaŭlenaje! Chrystos Uvaskros! Jon pieramoh Śmierć, hrech i ŭsialakaje zło! Niachaj zha Jon dapamahaje nam iści pa zhyćci z Boham, doraczy radaść dy Luboŭ tym, chto pobacz! Jon viedaje, czaho patrabujem, i daje nam heta. Jon — Usiomahutny — nasz Boh i Siabra! kl.Siarhiej

**Хрыстос уваскрос!** Радуймася, хрысьціяне! Хваліце Госпада ўсім сэрцам сваім! Сьпявайце Песьню Богу!

**Julina!** Vinšuju ciabie z Dniom narodzinaŭ! Budź! Swiataslawaŭna

### выстава

**Выстава** "Жывапіс Генадзя Драздова, партрэты Алеся Пушкіна" праходзіць у Чырвоным Касьцёле

### гучная сувязь

**Прадам камплект гучнай сувязі "Эрыксан"** для аўта (унівэрс.). Т.: 8-029-601-76-12. Менск, 220114, а/с 501

### ідэі

**Хто веруе ў Сына**, мае вечнае жыцьцё, а хто ў Сына ня веруе, ня ўбачыць жыцьця, але гнеў Божы будзе на ім. Ян 3:36

Італьянец, 52/181/65, настаўнік, пяшчотны і чулы, б/дзяцей, б/шкодных звычак, шукае знаёмства зь незамужняй жанчынай гадоў 35-38, б/дзяцей і б/шкодных звычак, каб разам спакойна сустрэць будучыню. Англ./італ. мовы. Enzo Bonzi P.O.Box 33, via Corell, 44, 48018 Faenza (RA) Italia. e-mail: thuria@libero.it, (тэл. 97817, Дуброва)

**Ісус адказаў ім**: запраўды, запраўды кажу вам: усякі, хто грашыць, ёсьць нявольнік грэху. Ян 8:34

**Спадару Віктару!** Ёсьць прапанова зрабіць шпацыр па Менску. То заходзьце. Яна

**Oj, Vožyk!** Niaŭžo heta I praŭda ty? Pračnuŭsia!!!

**Vožyki**, a vy jakija? Cioplyja? A duša u vas bieššmiarotnaja? A serca choć kali bjecca? Ja užo zabylasia... Soniejka

**Вожыкам**, Сонейкам, Кактусам, Сланечнікам, восеньскім, вясновым, жалезным і іншым. Калі каханьне дастала — чытайце Шапэнгаўэра! Супольная знаёмая

**Siaržuk**, nie zdavajsia! Nasta

**Генусю!** Твая пэнталёгія пра псыха ня вельмі геніяльная! Але я яе разрэклямую! Чытайце ўсе! Vit

**Адзінай нацыі** — адзіны правапіс!

**Жыве** Нацыянальная Рэвалюцыя! Беларуская Партыя Свабоды заклікае да змаганьня. Збор прыхільнікаў — штоаўторак а 18-й ля помніка Янку Купалу. Бэпээсаўцы

**Ідэя!** Нацыя! Дзяржава! Пэйдж.: 289-12-12, аб. 4430. bps@tut.by Бэпээсаўцы

**Альтэрнатва** Лукашэнку — Зянон Пазьняк

**Бел-чырвона-чорны** сьцяг і Ярылаў крыж на чорным шчыце — сымбалі рашучага дзеяньня. bps@tut.by

**Партыя Свабоды**, а ня партыя Сержука! Штосераду а 19-й на ст. мэтро "Пралетарская" (канец плятформы)

**Заснавальнікі БПС**, якія адышлі ад актыўнага ўдзелу, вяртайцеся будаваць партыю. Пэйдж.: 289-12-12, аб. 4430

**Калі ты сапраўдны нацыяналіст**, уступай у шэрагі БПС. Пэйдж.: 289-12-12, аб. 4430, e-mail: bps@tut.by

**Меражкоўскі** тэрмінова патрэбны яго гаспадарам. Пірог і сям'я

**В. п. сп. Мельнікаў**: сагнаны "ў рабства" Дзьм.

### каміны

**Каміны** рознай канфігурацыі на замову кліента. Т.: 228-45-87, 228-45-88

### кампутар

**Прадаецца кампутар** б/к, зусім танна+манітор. Т.: 228-45-88

### касьцёл

**Просім паведаміць паштовы адрас** касьцёлу Сьвятога Баўтрамея (Зарэчча) у Вільні. Дзякуй. Т.(у Гародні): 44-05-25

### летнік

**Запрашаем у археалягічны** летнік. Нацыянальныя сьвяты, спорт, адпачынак, новыя сябры. Т.: 215-84-09

### лямпачкі

**Набуду лямпачкі:** КГМ, КП, ДРЫШ, ПАР, КГ, ЗК, ПЖ, ПЖЗ. Т.: (8-029) 601-76-12. Менск, 220114, а/с 501

### музыка, кнігі

**Беларускую Біблію**, Новы Запавет, духоўную літаратуру набуду. Сяргей. Т.: 226-42-63

**Просьба да ўсіх**, хто набываў касэту "На чорных лядах" (на абодвух баках касэты кадры зь фільму), зьвяртацца на адрас: 220107, Менск, а/с 150. (Калі ласка, напішыце, дзе і калі Вы набывалі касэту)

**Замова "Калосьсе" №9:** Аляксандар Козік, а/с 14, Полацак-13, 211413. Кошт 1 т.р.

**Куплю** т.4 Беларускай энцыкляпэдыі ў 18 т., Гістарычны слоўнік беларускай мовы, вып. 11. Т.: 262-67-02

**Куплю асобныя тамы** або цалкам Гістарычны слоўнік беларускай мовы. Т.: 213-70-85

**Прадаю 1-2 тамы** Энцыкляпэдыі гісторыі Беларусі. Кошт 7 т.р. Т.: 262-82-56

**Набуду літаратуру** па геральдыцы. Т.: (8-029) 601-76-12. Менск, 220114, а/с 501

Ісус сказаў яму: "Я і дарога, і праўда, і жыцьцё. Ніхто не прыходзе да Айца, калі ня цераз Мяне. Іаан. 16: 6

**БЕЛАРУСКАЯ ЭВАНГЕЛЬСКАЯ ЦАРКВА**

Набажэнства штонядзелі ў Менску а 10-й гадзіне: вул. Любімава 21-56, тэл.: 279-71-31, 270-89-87. Штонядзелі ў Асіповічах а 17-й гадзіне: вул. Леніна 40, тэл.: 20-840, шточацьвер у Барысаве, вул. Ватуціна 38-45, тэл. 54-908.

**Прадаю:**
Кнігі — поштай: М.Раманюк "Беларускія народныя крыжы", З.Пазьняк "Глёрыя Патрыя", зб. тв. У.Караткевіча ў 8 т. і інш.
Вышлю каталёг: 220030 Менск- 30 а/с 195, Яну; janka_cit@yahoo.com; Тэл.: 258-43-54.

Беларускае відэа ў Гомелі: "Адважнае сэрца", "Ісус", "На чорных лядах", "Абуджаная сталіца", "Рок-каранацыя" ды іншыя. У Піянэрскім сквэры (ля цырку) штонядзелю да 13.00 альбо праз тэлефон 45-11-51 (Гомель) штодня.

### net

**На сайце БелВідэаКлюбу** (http://belvidea.cjb.net) ужо ёсьць папярэднія вынікі апытаньня "Элітарнае кіно XX ст." Дарэчы, дызайн сайту цалкам зьменены

**"Сьвятая Дубровая — Крыўскі Пяроспар":** традыцыя, дахрысьціянскі сьветагляд, сьвятарная гісторыя, геапалітыка, канспіралёгія, нацыяналізм, экстрэмізм. http://www.dubrova.cjb.net

**Катлеты** можаш не любіць. Мець БелВінАмп абавязаны. Вывуджайма беларускі Language Pack. www.winamp.com/plugins

**Вінамп** — палімоўная рэч. Language Pack'і на любы фасон. www.winamp.com/plugins. Кожнаму хопіць

### праца

**Выкладчык фізвыхаваньня** шукае працу на лета, пажадана зьвязаную са спортам. Т.: 235-15-20

**Гуманітарнаму ліцэю** імя Якуба Коласа патрэбныя на сталую працу беларускамоўныя загадчык бібліятэкі й бібліятэкар. Т.: 222-31-06, 227-32-77 (прыёмная).

**Шукаю працу** ў хаце ці расклейшчыка. Выканаю іншыя даручэньні ў Гомлі. А/с 9, 246008, Гомель-8

**Выканаю адрасную**, бязадрасную рэкляму поштай у Гомлі, іншыя даручэньні. А/с 9, 246008, Гомель-8

**Буду ўдзячны таму**, хто дапаможа ўладкавацца на заробкі ў Амэрыку ці Эўропу. 222120, г.Барысаў, Грычка, 24-40

**Дапамагу пачаць** сваю працу ў хаце (не распаўсюджваньне). Прыбытак ад 200 у.а. Нескладана! Могуць усе! Ад Вас капэрта са эв/а+купон б/а: 220089, Менск-89, а/с 122

### шчэпы

**Спадарства — вясна!** Хто хоча набыць шчэпы яблыняў, ігрушаў, сьліваў — тэлефануйце. Т.: 506-63-97

## Паштовая скрынка



**Мары з Лунінца.** Прадказаньні Вашыя трохі хаатычныя. Дый замала іх, каб друкаваць. Памарце яшчэ.

**Віктару Х. зь Менску.** Рэцэнзія рэклямная. Такіх зазвычай не друкуем.

**Дзянісу М. зь Менску.** Не зважайце на несур'ёзныя выданьні. Гэткі водгук меў бы сэнс толькі ў адным выпадку — калі даслаць яго ў растоўскае выдавецтва. У Беларусі такая рэцэнзія зацікавіць хіба спэцыялізаванае выданьне.

**Ганьне С. з Койданава.** Такой абвесткі надрукаваць ня можам. За такую абвестку трэ было б плаціць па звыклых рэклямных расцэнках, а не па льготных, для прыватных асобаў.

**Генадзю Т. з Гомеля.** Пра каралеву Бону — цікава. Але варта аформіць гэта ў эсэ. Рэцэнзія на кнігу 1988 г. глядзелася б загадкава.


## КОШТЫ на платныя прыватныя абвесткі:



— да 20 словаў (тэкставы модуль) — 113 руб.
— звыш 20 словаў (тэкставы модуль) — 143 руб.
— афармленая абвестка — 71 руб. за кв.см.
— **афармленая абвестка — памерам больш за 24 кв.см. з улікам кошту арыгінал-макету — ад 94 руб. за 1 кв.см.**

За абвесткі пра сямейныя падзеі — зьніжка.
Абвесткі палітычнага характару і ад грамадзкіх арганізацыяў аплачваюцца паводле рэклямных расцэнак для камэрцыйных абвестак.
Каб замовіць платную прыватную абвестку, трэба пералічыць грошы праз пошту пераводам на разьліковы рахунак: рэдакцыя газэты «Наша Ніва», р/р 3012213050010, Ленінскае аддз. ААТ «Белбізнэсбанк» Менску, код 763.
**На зваротным баку блянку паштовага пераводу ў сэктары «Для пісьмовых паведамленьняў» запісваецца дакладна й чытэльна тэкст абвесткі, тэлефон для сувязі і абавязкова дадаецца сказ: «За рэклямныя паслугі».**



**НАША НІВА**
**незалежная газэта**
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

**галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:**
С.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906–1914), Янка Купала (1914–1915), А.Луцкевіч (1920), С.Дубавец (1991–2000).

| | |
|---|---|
| сакратарка рэдакцыі | Наста Бакшанская |
| карэктарка | Надзея Бракар |
| в.а. галоўнага рэдактара | Андрэй Дынько |
| заснавальнік | Павал Жук |
| карэктарка | Віялета Кавалёва |
| намесьнік гал.рэдактара | Андрэй Скурко |
| мастацкі рэдактар | Аляксей Чарняеў |
| выдавец | рэдакцыя газэты "Наша Ніва" |

**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:**
**220050, Менск, а/с 537**
**Tel/fax: (017) 213-32-32**
**E-mail: nn@irex.minsk.by**
**http://members.nbci.com/nasa_niva/**


© **НАША НІВА**.
Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. 6 палос фарматам А2. Друкарня УП выдавецтва «Беларускі Дом друку». Менск, пр. Скарыны, 79. Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест рэклямных абвестак. Кошт. свабодны. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 581 ад 4 ліпеня 1996 г., выдадзенае Дзяржаўным камітэтам па друку Рэспублікі Беларусі. Юрыдычны адрас: г.Менск, пр. Газэты «Известия», д. 8, кв. 173.

Наклад 4627.

Нумар падпісаны ў друк 25.4.2001.

Замова № 2274.

Рэдакцыйны адрас: Менск, Калектарная, 20а/2а

**НАША НІВА КУПОН БЯСПЛАТНАЙ ПРЫВАТНАЙ АБВЕСТКІ**

Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (ня больш за 15 словаў) бясплатна. 220050, Менск, а/с 537

Тэкст ______________________________

____________________________________

Імя і прозьвішча ____________________

Адрас, тэлефон _____________________